ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№21 (2527)

22 мая 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

*ДА 90-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Іосіфа ЖЫНОВІЧА*

## СВЯТЛО НЯГАСНУЧАЙ ЗОРКІ



Спачатку аўтар гэтых радкоў хацеў назваць свой невялікі расказ аб вялікім мастаку "Святло пагаслай зоркі", але своечасова апамятаўся. Ён жа жывы, яго імя штодзённа на вуснах "маладога племені" беларускіх цымбалістаў — Жыновіч. Аркестр Жыновіча, "Школа для беларускіх цымбалаў" Жыновіча. Музыка Жыновіча. Вучні Жыновіча.

Некалі старажытны пісьменнік Лукіян насмешліва гаварыў: "Апалону, відаць, цяжка рабіць столькі розных спраў, і ці не лепш яму выбраць адзін які-небудзь занятак: прадказальніка, музыканта ці ўрача". Але людзі, грэкі і рымляне, у сваім політэізме верылі ў існаванне бога Апалона — абаронцы музыкі, спеваў і паэзіі. На тое ён і бог, каб займацца вельмі многім і паспяхова.

У сузор'і беларускіх цымбалістаў імя Жыновіча ззяе асобым святлом. Гэта прызнаны бог цымбалістаў, які сімвалізуе духоўнасць і высокі прафесіяналізм народна-інструментальнага мастацтва, Богам адзначаны музыкант. Напэўна, таму народ вянчаў яго самымі высокімі ўзнагародамі, называючы Панам Цымбалаў, цымбальным Арфеем, беларускім Андрэевым, Апалонам цымбалаў, крылатай душой і іншымі. І, зразумела, усё гэта не выпадкова. Выканаўца і педагог, дырыжор і кампазітар, даследчык і выхавальнік, ансамбліст і грамадскі дзеяч — такім ён быў, такім запомніўся тым, хто яго ведаў, цаніў, любіў. Але справа не толькі ў тым, што Іосіф Іосіфавіч валодаў шырокай панарамай, буйным арсеналам творчай дзейнасці, галоўнае заключаецца ў тым, што ў пералічаных намінацыях ён дасягнуў сапраўдных вышынь. Мастацтва, як, зрэшты, і навуку, рухаюць наперад і выводзяць на магістральныя шляхі мэтанакіраваныя людзі, апантаныя (у добрым сэнсе), якія ўсімі сіламі спрабуюць дасягнуць немагчымага і дасягаюць магчымага.

Жыновіч, які з самага ранняга ўзросту далучыўся да глыбінь народнага духу, глыбока звязаны каранямі са сваёй айчынай, сваёй краінай, сваім народам, праз усё жыццё пранёс любоў і вернасць да свайго роднага краю, да народнага мастацтва.

Чыстая, інтэнсіўна пульсуючая крынічка, што

(Заканчэнне на 7-й стар.).

*ФЕСТЫВАЛЬ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ КУЛЬТУР*



**У канцы красавіка ў Мінску прайшоў першы форум музычных культур народаў Беларусі "Квецень сонечных промняў".**

**НА ЗДЫМКУ: гасцей і ўдзельнікаў фестывалю сустракалі юныя музыкі Вольга МІННІК і Цімафей КУЗЬМІЧ.**

*(Заканчэнне фотарэпартажу на 8-й стар.).*

**АХОВА НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ**

## У ПРЫРОДЫ СВАЕ ЗАКОНЫ

*Сапраўды, у прыроды свае законы, і яны, на жаль, усё горш і горш стасуюцца з нашымі, чалавечымі. Можа таму, што туды ніколі не ўносіцца папраўкі, іх не ў стане адмяніць нічый найвышэйшы загад ці ўказ. Тым не менш, чалавеку хочацца паўсюль пагаспадарыць. Тады рэкі рызыкуюць быць "павернутымі" назад, пустыні ператвораныя ў аазісы, а аазісы ў пустыні, ільды растопленымі, а звярам і птушкам усё часцей наканавана гуляць не па лясных ці стэпавых прасторах, а па старонках "Чырвонай кнігі"... Канешне, супрацьстаяць такім варварскім адносінам да прыроды павінен у першую чаргу разважлівы і прадбачлівы чалавечы розум. Калі ж яго не хапае ці няма ўвогуле... Тады, мабыць, спецыяльныя кантрольныя ўстановы, накшталт той, што ўзначальвае наш сённяшні субяседнік. Знаёмцеся, Алег СІДАРЭНКА — начальнік аддзела дзяржаўнага кантролю за выкарыстаннем і аховай жывёльнага свету Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.*

*Алег Мікалаевіч скончыў геаграфічны факультэт Белдзяржуніверсітэта, спецфакультэт па спецыяльнасці экалогія і рацыянальнае выкарыстанне прыродных рэсурсаў, працаваў у дзяржаўнай сістэме аховы прыроды, у Інстытуце заалогіі Акадэміі навук Беларусі. На працягу шасці гадоў вёў даследаванні па чарнобыльскай тэматыцы — уплыў радыяцыі на жывёльны свет.*

**— Алег Мікалаевіч, вы згодны, што становішча з аховай прыроды і жывёльнага свету з цягам часу толькі пагаршаецца!**

— Калі казаць пра "здароўе" прыроды ўвогуле — сапраўды, стан дрэнны. І не толькі ў Беларусі. Таксама і па ўсёй Еўропе. Але, як вядома, у апошнія гады ў нашай краіне адбыўся спад прамысловай вытворчасці, многія заводы і фабрыкі прастойваюць, а значыць, зменшыліся выкіды шкодных адходаў у атмасферу, рэкі і азёры. Парадаксальна: эканамічная бяда абярнулася своеасаблівым выратаваннем для прыроды.

Што тычыцца жывёльнага свету, здаўна заўважана: ва ўсе смутныя часы — войны, рэвалюцыі, разнастайныя "перабудовы" — браты нашы

(Заканчэнне на 3-й стар.).

**НАШ ВЯЛІКІ ПРОДАК**

## АКАДЭМІЧНЫЯ ПОГЛЯДЫ НА Ф. СКАРЫНУ Ў МІНУЛЫМ

Апафеозам вывучэння жыцця і дзейнасці Ф. Скарыны ў Інбелкульце быў, безумоўна, навуковы зборнік артыкулаў, які выйшаў у Мінску ў 1926 годзе пад назвай "400-лецце беларускага друку", прысвечаны беларускаму гуманісту, асветніку і першадрукару Францыску Скарыне. Гэта была выніковая праца навукоўцаў, што аднавіла свята беларускага пісьменства. Яна падвяла рысу пад пэўным этапам скарыназнаўства.

Беларуская акадэмія навук пачала стварацца ў снежні 1928 года. Афіцыйнае, святочнае адкрыццё адбылося 1 студзеня 1929 года. Адразу ж былі абраны праўдзейныя члены і члены-карэспандэнты акадэміі. На адкрыцці з прамовай выступіў В. Кнорын — першы сакратар ЦК КП(б)Б. Гэты партыйны лідэр адыграў вельмі адмоўную ролю ў скарыназнаўстве, быў родапачыльнікам вульгарна-сацыялагічнага падыходу да жыцця і дзейнасці Ф. Скарыны. На думку партыйца, беларускі першадрукар быў непралетарскі дзеяч, таму ў гісторыі культуры Беларусі яму няма месца. У той час існавала дыктатура партыйнай наменклатуры, якая дыктавала навукоўцам, што і як вывучаць у гісторыі Беларусі.

В. Кнорын 19 красавіка 1928 года ў газеце "Савецкая Беларусь" выступіў з артыкулам "Аб рашаючых "дробязях" у вялікім пытанні (Да пытання аб палітыцы беларусізацыі)", у якім сцвярджаў, што ў беларускага народа "ня было самага элементарнага першапачатковага культурнага накаплення", і далей: "мы супраць канструявання адзінай некласавай гісторыі, мы супраць таго, каб сярэдняявяковых манахаў — на якой бы яны мове ні пісалі — уключаць у лона папярэднікаў нашай культуры".

Класавы падыход да з'яў гісторыі беларускай культуры нанадоўчы наносіў шкоду навуцы. Партыйная наменклатура, дзякуючы гэтаму, магла заўсёды валодаць усімі магчымымі і не-

(Заканчэнне на 4-й стар.).

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*МІЖНАРОДНЫЯ КАНТАКТЫ*

# БЕЛАРУСКА-ЎКРАІНСКІ ДЫЯЛОГ

**Адбыўся афіцыйны візіт у Кіеў беларускай дэлегацыі на чале з Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам, які садзейнічаў наладжванню больш адкрытага добрасуседскага дыялога паміж Беларуссю і Украінай.**

У час сустрэчы кіраўнікі суседніх дзяржаў паставілі свае подпісы пад Дагаворам аб дзяржаўнай граніцы паміж Беларуссю і Украінай, пратаколам апісанняў праходжання дзяржаўнай граніцы і альбомамі тапаграфічных карт. Кіраўнікамі адпаведных міністэрстваў і ведамстваў былі падпісаны пагадненні аб супрацоўніцтве прыгранічных абласцей, пратакол аб спецыяльным парадку перамяшчэння грузаў у зону адчужэння Чарнобыльскай АЭС на тэрыторыю Украіны і назад, пратакол аб забеспячэнні першачарговага пропуску праз украінска-беларускую дзяржаўную граніцу аўтатранспартных сродкаў, якія перавозяць плодаагародніннную прадукцыю і тару для яе транспарціроўкі і іншыя дакументы.



Найбольш складаным у перагаворах Прэзідэнт Украіны назваў пытанне аб урэгуляванні ўкраінскага доўгу Беларусі. Гэта, паводле яго слоў, абумоўлена тым, што пры разглядзе такіх пытанняў адназначнае рашэнне прымаецца не адразу.

Вялікае месца ў перагаворах кіраўнікоў дзяржаў было адведзена растлумачэнню сваіх пазіцый адносна НАТО. Як адзначыў Леанід Кучма, яго краіна мае намер развіваць дружалюбныя ўзаемавыгадныя адносіны з Паўночнаатлантычным альянсам. Беларусь, паводле сцвярджэння Аляксандра Лукашэнкі, праводзячы апошнім часам перагаворы з НАТО, выкарыстала вопыт Украіны. "Пазіцыя нашай краіны зыходзіць не толькі з пункту гледжання Прэзідэнта або кіраўніцтва краіны, але перш за ўсё і з пазіцыі беларускага грамадства, якое сваёй большасцю не прымае пашырэння НАТО, — заявіў Аляксандр Лукашэнка. — І гэта не кажучы ўжо аб размяшчэнні на тэрыторыі новапрынятых дзяржаў не толькі ядзернай стратэгічнай і тактычнай зброі, але і звычайных узбраенняў".

У апошні дзень знаходжання ў Кіеве Прэзідэнт А. Лукашэнка сустрэўся з прадстаўнікамі беларускай дыяспары на Украіне, расказаў суайчыннікам аб палітычным і эканамічным становішчы на Беларусі.

НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы Прэзідэнтаў з прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі.

*АДНОСІНЫ З ЗША*

# БУДУЦЬ РАЗВІВАЦЦА НАРМАЛЬНА

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ўпэўнены, што беларуска-амерыканскія адносіны будуць развівацца нармальна. Каменціруючы вяртанне ў Мінск кіраўніка амерыканскай дыпламатычнай місіі Кенета Ялавіца і адбыццё ў ЗША Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Беларусі ў ЗША Валерыя Цапкалы, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што суверэнная Беларусь будзе і надалей праводзіць незалежную палітыку.

Як лічыць амерыканскі бок, заўважыў Прэзідэнт, быў шэраг непаразуменняў, што здараецца ў дыпламатычнай практыцы. Разам з тым адносна замежных грамадзян, якія знаходзяцца ў Беларусі, пазіцыя Прэзідэнта вызначана: яны павінны выконваць патрабаванні дзеючага нацыянальнага заканадаўства і паважаць выбар беларускага народа.

Рэспубліка Беларусь, паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, гатова будаваць свае адносіны з іншымі дзяржавамі на аснове павагі і ўзаемавыгады. "Мы маем права вызначаць сваю знешнюю палітыку ў інтарэсах свайго народа". Прэзідэнт напомніў, што тры яе асноўныя вектары вызначаны: Расія, суседнія краіны, Заходняя Еўропа і ЗША.

*АДУКАЦЫЯ*

# РЭКАМЕНДАВАНЫ ДА ВЫДАННЯ

Пад старшынствам намесніка прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Русакевіча адбылося чарговае пасяджэнне дзяржаўнай камісіі па падрыхтоўцы новых падручнікаў у гуманітарна-грамадазнаўчай сферы.

На пасяджэнні разгледжана падрыхтоўка да выдання шэрагу падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў па гісторыі, беларускай мове, літаратуры, методыцы выкладання. Пасля дэтальнага абмеркавання камісія рэкамендавала да выдання адзін падручнік і тры вучэбныя дапаможнікі па гісторыі, чатыры вучэбныя дапаможнікі па літаратуры, адзін падручнік па беларускай мове і два вучэбных дапаможнікі па методыцы выкладання. Асобныя рукапісы новых падручнікаў накіраваны аўтарам на дапрацоўку, і адзін вучэбны дапаможнік па літаратуры не рэкамендаваны да выдання.

*УЗНАГАРОДЫ*

# ПРЭМІЯ АД КАМПАНІІ «ФОРД» БЕЛАРУСКАМУ ВУЧОНАМУ

Беларускі вучоны Пётр Козла ўзнагароджаны прэміяй ад сусветна вядомай аўтамабільнай кампаніі "Форд". Такога гонару наш суайчыннік удастоіўся за праект "Захаванне і абарона белавежскіх зуброў". Адным з напрамкаў дзейнасці "Форда" з'яўляецца праграма ў галіне экалогіі. Сёлета на гэтыя мэты кампанія выдзеліла 500 тысяч долараў для 29 краін Еўропы. На разгляд журы, якое ўзначальвае праўнук заснавальніка кампаніі Генры Форда Вільям Клэй Форд-малодшы, ад Беларусі было прадстаўлена 22 розныя праекты. Лепшым "фордаўцы" палічылі "белавежскі" праект Козлы.

Для ўручэння пераможцу прэміі ў Мінск прыехаў супрацоўнік кампаніі Крыстаф Сідэр. Ён высока ацаніў працу беларускага вучонага, што стала своеасаблівай пуцёўкай у еўрапейскі фінал.

*ВЫСТАВА «ТРАНСТЭХ-97»*



У Мінску, у выставачным комплексе на вуліцы Я. Купалы, прайшоў аптовы кірмаш непрадуктовых тавараў "Транстэх-97". Тут быў прадстаўлены транспарт і тэхнічнае забеспячэнне, якія прапаноўваюць больш чым 80 фірм і сумесных прадпрыемстваў Расіі, Беларусі і іншых краін.

НА ЗДЫМКУ: аўтамабілі, якія прапаноўвае СП "Белхундай".

*СУПРАЦОЎНІЦТВА*

# ЧЫМ ЗАЛАТАЦЬ АЗОНАВУЮ ДЗІРКУ

Сусветны банк аб'явіў аб зацвярджэнні гранта ў памеры 6,9 мільёна долараў у рамках глабальнага экалагічнага крэдыту, які павінен садзейнічаць фінансаванню праекта паэтапнага спынення прымянення азонаразбуральных рэчываў (АРР) на тэрыторыі Беларусі.

Праект дазволіць нашай рэспубліцы адмовіцца ад прымянення ў халадзільных установках і растваральніках хлорфторвуглеродаў шляхам замены іх эканамічна эфектыўнымі, азонанеразбуральнымі альтэрнатыўнымі матэрыяламі. Ён будзе садзейнічаць таксама перадачы тэхналогій паэтапнага спынення выкарыстання АРР у барацьбе з агнём.

*ДАБРАЧЫННАСЦЬ*

# «ЗОРКА НАДЗЕІ»

Шведская арганізацыя "Зорка надзеі" заключыла дагавор з Міністэрствамі аховы здароўя Беларусі і Украіны на прадмет навучання ўрачоў, якія аперыруюць дзяцей з раёнаў, што пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС.

За ўвесь постчарнобыльскі час у Швецыі, дзякуючы гэтай арганізацыі, прааперыравана 1 200 дзяцей і падлеткаў з дыягназам "рак шчытападобнай залозы". Акрамя таго "Зорка надзеі" штогод прымае на аздараўленне ў Швецыі 240 дзяцей.

*СТАТЫСТЫКА*

# МІГРАЦЫЯ НА БРЭСТЧЫНЕ

Згодна з інфармацыяй аблстатупраўлення, у 1996 годзе ў Брэсцкую вобласць прыбыло 12,1 тысячы чалавек. 61 працэнт перасяленцаў — жыхары Беларусі, 22,4 працэнта — прыбылі з Расіі, 9,1 працэнта — з Украіны, 3,6 працэнта — з рэспублік Сярэдняй Азіі...

Пры СССР Брэстчына і асабліва абласны цэнтр мелі ледзь ці не найвышэйшы ў краіне прыток насельніцтва і лічыліся прывабным месцам для ваенных адстаўнікоў і іншых грамадзян.

За гэты ж час за межы вобласці на пастаяннае пражыванне выбыла 11,9 тысячы чалавек: 79 працэнтаў — у межах Беларусі, 15,2 — у Расію, 4,6 — на Украіну і 4,9 працэнта — у далёкае замежжа.

*АВАРЫЯ*



30 красавіка на адной з нітак газаправода "Таржок—Мінск—Івацэвічы" адбыўся выбух. Узнік пажар, у выніку якога выгарэла каля дзесяці гектараў лесу. Дзякуючы аўтаматычнай сістэме кантролю ўдалося пазбегнуць вялікіх страт газу. Ніхто не пацярпеў. Адказнасць за выбух на газаправодзе ўзялі на сябе тэрарысты з "Беларускай вызваленчай арміі".

Члены спецыяльнай камісіі, якія працавалі на месцы здарэння, прыйшлі да вываду, што прычынай выбуху мог стаць тэрарыстычны акт.

Цяпер завяршаюцца ўсе рамонтныя работы па аднаўленню газаправода. Нягледзячы на аварыю, падача паліва спажыўцам не спынялася.

НА ЗДЫМКУ: ідуць рамонтныя работы.

*АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ*

28 ГРАМАДЗЯНАМ нашай рэспублікі дзякуючы садзейнічанню Беларускага фонду Сораса прадастаўлена права прадоўжыць вучобу ў розных вышэйшых навучальных установах ЗША, Англіі, Балгарыі. Прадстаўнікі прыродазнаўчых, гуманітарных навук рэспублікі ў залежнасці ад свайго адукацыйнага ўзроўню атрымаюць навуковыя ступені бакалаўра, магістра...

У ЦЭНТРЫ Пінска пры правядзенні земляных работ будаўнікі знайшлі падазроны прадмет, які аказаўся нямецкай мінай. Пры старанным абследаванні сапёры выявілі цэлы склад нямецкіх 81-міліметровых мін, што захаваліся з часоў Вялікай Айчыннай вайны. Было выяўлена, вывезена ў спецыяльнае месца і знішчана 107 мін.

ПА РАШЭННЮ Магілёўскага гарвыканкома былая Сілікатная вуліца названа імем народнага артыста СССР кінарэжысёра Віктара Турава, а новая вуліца ў мікрараёне Спадарожнік — імем народнага пісьменніка Беларусі Івана ЧЫГРЫНАВА.

ДЗЕНЬ славянскага патрыярха Кірылы Тураўскага і традыцыйнае свята горада прайшлі ў Тураве Жыткавіцкага раёна. Тут адбыўся хрэсны ход да Замкавай гары, былі выкананы малітвы і песнапенні ў гонар вялікага асветніка і аб'яднальніка славян, святога з Турава, а таксама мітынг, канцэрт самадзейных калектываў і народныя гулянні. Да помніка вялікаму земляку леглі жывыя кветкі.

295 ЖЫЛЫХ ДАМОЎ, 59 грамадскіх будынкаў, 365 гаспадарчых памяшканняў, 137 ліній электраперадач пашкоджаны ў выніку моцнага ветру, які бушаваў на Віцебшчыне трое сутак. Ветравой эрозіі і высушванню падвергліся пасевы на лёгкіх глебах. Асабліва пацярпелі шэсць цэнтральных раёнаў вобласці. Матэрыяльны ўрон — каля 40 мільярдаў рублёў. Чалавечых ахвяр няма.

АБ'ЯДНАННЕ РАСІІ І БЕЛАРУСІ

# ГРАШОВЫЯ ПРАБЛЕМЫ

**Скончылася абмеркаванне праекта Дагавора аб Саюзе Беларусі і Расіі. Тым не менш, засталіся шматлікія праблемы і пытанні, што хвалююць не толькі прафесіяналаў, але і простых людзей, на чые лёсы дагавор, несумненна, акажа немалы ўплыў. На некаторыя з гэтых пытанняў адказвае былы старшыня Нацбанка Беларусі Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ.**

*— Як, на ваш погляд, будуць выглядаць валютна-фінансавыя адносіны дзвюх дзяржаў ва ўмовах нестабільнасці валютна-фінансавай сферы Беларусі?*

— Перш за ўсё, я мяркую, што праект дагавора — гэта звычайная дэкларацыя, якіх за час існавання СНД было падпісана мноства. Ніколі не падводзіліся вынікі іх выканання і не аналізаваліся. У Дагаворы аб Саюзе Беларусі і Расіі і Статуце Саюза Расііі і Беларусі толькі абвяшчаецца туманная мэта стварэння адзінага эмісійнага цэнтра, адзінай валюты. З напісанага няясна, на які тэрмін разлічана гэта мэта: на дваццаць гадоў, на сто, а можа, на шэсць месяцаў. Таму, калі чытаць дакумент, а не дамысліваць самому, што ж у ім хацелі сказаць, то наўрад ці ўдасца нешта з яго зразумець.

*— А як вы ацэньваеце праект эканамічнага саюза, падрыхтаванага рухам "Яблоко"?*

— На мой погляд, у гэтым праекце ёсць многа прымальнага, прысутнічае здаровы падыход да эканамічнага збліжэння дзвюх нашых краін. У адным з артыкулаў праекта сцвярджаецца, што дзяржавы ўсведамляюць магчымасць захавання нацыянальных валют і пастараюцца іх умацаваць. У перспектыве прадугледжваецца, што валютная сістэма дзвюх краін будзе базіравацца не на Цэнтральным банку Расіі, тут закладзена магчымасць стварэння міждзяржаўнага эмісійнага банка, які будзе працаваць прафесійна і самастойна, не падпарадкоўваючыся парламенту Расіі ці Беларусі, як гэта ўжо сёння існуе ў некаторых дзяржавах, напрыклад, Германіі, дзе Бундэсбанк незалежны ад Бундэсрата і Бундэстага, працуе на прафесійнай аснове, і рашэнні яго нельга адмяніць.

*— Але ў эканамічным дагаворы, прапанаваным фракцыяй "Яблоко", аб эмісійным цэнтры гаворыцца як аб далёкай перспектыве, а што можна было б зрабіць цяпер?*

— Сёння можна было б ужо заключыць проста міжбанкаўскі саюз, які меркаваў бы ўзяцце на сябе цэнтральнымі банкамі дзвюх краін абавязацельстваў не дапускаць безрэсурсную эмісію, устанаўліваць на рыначнай падставе станоўчыя працэнтныя стаўкі, каб не дапускаць абясцэньвання ўкладаў грамадзян, грашовых накапленняў прадпрыемстваў і любых суб'ектаў гаспадарання. У Беларусі ж з верасня месяца да канца года з-за адмоўнай працэнтнай стаўкі зберажэнні грамадзян зноў абясцэніла інфляцыя. У студзені, лютым, сакавіку інфляцыя ў рэспубліцы, па афіцыйнай статыстыцы, склала амаль 26 працэнтаў. А між іншым, гэтая лічба запланавана Адміністрацыяй Прэзідэнта на ўвесь 1997 год.

*— У якой ступені праграма Яўлінскага вырашае праблемы, што ўзнікаюць пры аб'яднанні дзвюх краін?*

— У прапановах Яўлінскага многа карыснага, але нічога новага, таму што год назад быў заключаны Дагавор аб супольніцтве, і ўсё гэта там ужо запісана. Калі я чую інтэрв'ю, якія журналісты бяруць на вуліцах, мяне здзіўляе, якая ў людзей кароткая памяць. Усе чамусьці дружна гавораць, што саюз з Расіяй нам патрэбны, бо дапаможа гандляваць з Расіяй. Але ж у нас няма межаў з Расіяй, у нас агульная таможная тэрыторыя, свабодны пераліў тавараў, капіталаў, што ж тычыцца не створаных да канца прававых механізмаў, то яны закладзены, і трэба толькі, каб урад іх рэалізаваў на базе ратыфікаванага Дагавора аб супольніцтве. Мы праціўнікі межаў, праціўнікі таго, каб пры адзіным рынку міліцыя ў цягніках пералічвала слоікі са смятанай, якія вязуць беларусы ў Расію. Трэба не слоікі лічыць, а вырашаць глыбінныя пытанні цэнаўтварэння, каб яно вызначалася попытам і прапановай, а не забаронай і адміністраваннем.

*— У дагаворы ёсць словы аб "фарміраванні валютнай сістэмы з будучым увядзеннем адзінай валюты". Ці далёкая, на ваш погляд, гэтая будучыня і ці рэальная і патрэбная яна?*

— Час гэты ніяк не пазначаны, а становішча аб уніфікацыі заканадаўства, практыкі гаспадарчай і банкаўскай дзейнасці, а таксама уніфікацыі валютнага рэгулявання запісана яшчэ ў дагаворы аб Садружнасці. Не думаю, быццам нешта зменіцца ад таго, што слова "садружнасць" будзе заменена на слова "саюз". У прынцыпе, як ужо гаварылася, можна стварыць пазанацыянальны эмісійны банк, зацвердзіць парламентамі закон аб яго функцыянаванні, устанавіць крымінальную адказнасць за парушэнне закона. Але ўсё гэта павінна грунтавацца зусім не на пазначанай у дагаворы базе наяўнасці золатавалютных рэзерваў і капіталаў у гэтага банка. Для нас гэта зусім не падыходзіць, таму што ў Беларусі іх увогуле няма, а ў Расіі актыўнае гандлёвае сальда, скажам, 14 мільярдаў долараў, і гэта азначае, што сілы будуць размяркоўвацца, як 99,9 працэнта да 0,1 працэнта галасоў. Стварыць міждзяржаўны эмісійны банк можна, але для гэтага трэба стварыць і адзіны эканамічны механізм. Заўважу, што Еўропа да гэтага ідзе сорак гадоў...

*— Якія ўмовы ў выпадку аб'яднання дзвюх валют павінны быць захаваны?*

— У гэтым выпадку неабходна, каб рэгістрацыя і перарэгістрацыя прадпрыемстваў у нашых краінах ішла па аднолькавых правілах, неабходна, каб валютнае рэгуляванне і валютны біржавы рынак існавалі па адных і тых жа законах, каб у нас была такая ж прыватная ўласнасць, як і ў Расіі, і многае іншае. Аднак усё гэта толькі пажаданні. Напрыклад, у дагаворы запісана, што мы выраўнуем сацыяльную абарону грамадзян. Але як гэта можна зрабіць, калі ў нас розныя бюджэты і розныя падаткі? У Беларусі максімальны прадаходны падатак на даходы грамадзяніна складае 50 працэнтаў, у Расіі гэты ж падатак — 35 працэнтаў. Імгненнае аб'яднанне дзвюх валют магчымае ў выпадку, калі адна краіна акупіруе другую і ўводзіць сваю валюту на яе тэрыторыі. Але зусім іншая справа, калі мы гаворым пра эканамічнае зліццё і развіццё палітыкі на базе эканомікі. Я не бачу магчымасці аб'яднання нашых валют у бліжэйшыя гады. Аднак, на мой погляд, галоўная прычына, па якой гэтае аб'яднанне сёння немагчымае, у тым, што беларускі народ цяпер пазбаўлены магчымасці пачуць альтэрнатыўны афіцыйнаму пункт гледжання і, па сутнасці, у яго няма права выбару, бо прыняць узважанае рашэнне можна толькі на падставе поўнай і ўсебаковай інфармацыі, а гэтага сёння ў людзей няма.

*— Чым можа абярнуцца для Беларусі непрадуманае і паспешлівае аб'яднанне валютна-фінансавых сістэм і стварэнне эмісійнага банка?*

— На тых умовах, якія прапанавалі старшыня праўлення цэнтральнага банка Расіі Дубінін і яго намеснік Аляксашкін, немагчымае стварэнне адзінага эмісійнага цэнтра без страты суверэнітэту Беларусі. Яны заяўляюць, што мы павінны пераходзіць на расійскую валюту і пры гэтым спасылаюцца на вопыт Германіі і Еўропы. Але Еўропа выпрацоўвае сваю калектыўную валюту "еўра" на зусім іншай, міждзяржаўнай аснове, на іншых прынцыпах. Іх прапанова зусім лагічная, з пазіцый Расіі, таму што хіба можна гаварыць аб раўнапраўным саюзе паміж "мядзведзем" і "зайчыкам"? Прыклады таго ўжо ёсць. Так, нашы краіны заключылі таможны саюз, у якім сказана, што любыя змены ў правілах абавязкова спачатку ўзгадняюцца, а потым зацвярджаюцца парламентамі. Скажыце, Расія хоць адзін раз, змяняючы таможныя пошліны, узгадняла гэта з намі? Ніколі! Не будзе гэтая вялікая краіна, абараняючы свае інтарэсы, пытацца кожны раз у маленькай Беларусі дазволу зрабіць так ці інакш.

*— Калі гаворыцца, што ствараемы Саюз — адкрытае ўтварэнне, куды могуць уступіць і іншыя краіны, у якіх таксама свае валюты, значыць, ужо сёння трэба прадумваць шляхі фінансавага рэгулявання і аб'яднання розных валютных сістэм?*

— Асабіста я лічу, што калі б усё гэта было ў 1991 годзе, то можна было б захаваць адзіную грашовую прастору і стварыць міждзяржаўны эмісійны банк на падставе "адна дзяржава — адзін голас". Але сёння гісторыя падарыла нам суверэнітэт, прычым, мірным шляхам, без крыві, без насілля, і толькі недальнабачны народ можа добраахвотна адмовіцца ад гэтага. З Расіяй трэба дружыць і супрацоўнічаць, разам з ёю шукаць інвестыцыі і новыя тэхналогіі, але трэба помніць, што ў "старэйшага брата", які мае ўладу, верх заўсёды возьмуць уласныя інтарэсы, а не дэмакратычныя каштоўнасці. Для Расіі Беларусь — гэта толькі тэрыторыя, адчыненыя дзверы на Захад, бясплатныя ваенныя базы, транзітныя шляхі, газанафтаправоды...

*— Што ў апублікаваным праекце Саюза выклікае ў вас найбольшую насцярожанасць?*

— Я бачу ў гэтым дакуменце рызыку страты Беларуссю ў будучыні свайго суверэнітэту і дзяржаўнасці, для гэтага, на жаль, ёсць нарматыўная база. Акрамя таго, Прэзідэнт пастаянна сцвярджае, што нашы дзеці не будуць ваяваць у гарачых пунктах Расіі, але гэта не вынікае з падпісанага дакумента. Там запісана палажэнне аб агульнай абароне межаў Саюза, і тым самым у дагаворы закладзена рызыка таго, што беларускім салдатам прыйдзецца ваяваць, напрыклад, у Таджыкістане. Дзіўна было б разлічваць, што, выконваючы гэты дагавор, нейкая з краін зможа карыстацца толькі дабротамі гэтага Саюза, не выконваючы ўзятых на сябе і падпісаных абавязацельстваў.

Гутарыла Вераніка ЧАРКАСАВА.

# У ПРЫРОДЫ СВАЕ ЗАКОНЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

меншыя церпяць не меней, чым людзі. І звязана гэта ў першую чаргу з сацыяльна-эканамічнымі ўмовамі. З'яўляецца многа непрацуючых, у астатніх вельмі маленькія зарплаты, на якія нельга пражыць. Вось людзі і накіроўваюцца за "харчовай дабаўкай" у лес — са стрэльбамі, пасткамі. Пасля рэвалюцыі 1917 года і грамадзянскай вайны на Беларусі засталося каля 120 ласёў. Доўгая забарона на паляванне некалькі павялічыла іх колькасць. Аднак новая бяда — другая сусветная вайна. У час яе і асабліва ў пасляваенны перыяд пагалоўе ласёў зноў рэзка ўпала, як, дарэчы, і дзікоў, казуль. Была прынята новая забарона, і недзе да 70-х гадоў капытных практычна не стралялі. І толькі калі іх колькасць узрасла, пачалося спартыўнае і прамысловае паляванне. Апошняе, між іншым, прыносіла гаспадаркам нядрэнны прыбытак — прадукцыя ў тым ці іншым выглядзе пастаўлялася за мяжу. Але так было да 1985—1986 гадоў. Далей пачаўся сапраўдны разброд: не стала ні патрабавальнасці з боку ўлады, ні павагі да закону ў насельніцтва. Старая арганізацыя ў справе аховы прыроды дала збой. Нешта ж новае немагчыма стварыць умомант.

**— Вы лічыце ранейшую сістэму эфектыўнай!**

— У свой час яна была досыць эфектыўнай. Канешне, і тады стралялі жывёлу без дазволу, але гэта былі адзінкавыя выпадкі, сёння ж кінуліся амаль ці не ўсе... Гэткая прыватызацыя...

**— Хто можа, той адхоплівае заводзік, хто не можа, "прыватызуе" хоць дзіка ў лесе!**

— Прыблізна так. А ўлічваючы, што для большасці завод ці фабрыка недасягальныя, народ страляе гэтае беднае "нічыйнае" лясное звяр'ё. Зноў-такі, многія робяць гэта дзеля падтрымкі сям'і. Але нярэдка браканьер прыязджае на новенькім джыпе, у яго ў руках дарагі фірменны карабін, адмысловыя прыстасаванні для начнога бачання... Пра які голад тут гаварыць!

**— Пэўна, можна купіць ліцэнзію на адстрэл!**

— Калі ласка, але ж яны гэтага не робяць. Хаця, скажу вам, браканьерства распаўсюджана ўсюды — і ў законапаслухмяных еўрапейскіх краінах таксама, натуральна, не ў такіх памерах, як у нас.

Мы стараемся навесці парадак. Зараз практычна ўсе паляўнічыя ўгоддзі перададзены ў арэнду, а гэта значыць — там з'явіўся рэальны гаспадар, які нясе поўную адказнасць за ахову, узнаўленне прыродных рэсурсаў на сваёй тэрыторыі.

**— Хто звычайна арандатары!**

— У большасці таварыствы паляўнічых і рыбаловаў — іх у нас тры. Таксама сярод арандатараў дзяржаўныя лясгасы. А ёсць і трычатыры гаспадаркі, арганізаваныя на камерцыйнай аснове. Я павінен адзначыць: працуюць яны вельмі эфектыўна. Праўда, напачатку існавала боязь, што за некалькі год возьмуць усё, што толькі магчыма, а потым ужо "пустыя" ўгоддзі, скажуць, забірайце назад. Не, дзякуй Богу, такога не здарылася, наадварот, адна з такіх гаспадарак, малое прадпрыемства "Цяцерына" з Круглянскага раёна, сярод лепшых. Мы там нават праводзілі семінар па арганізацыі сучаснай паляўнічай гаспадаркі і выкарыстанню перадавых прыёмаў і метадаў палявання. Ёсць чаму павучыцца.

**— Вы ўжо згадвалі такія дэструктыўныя фактары ў галіне аховы прыроды, як экалагічная недасканаласць прамысловай вытворчасці, агульны прававы нігілізм насельніцтва. Ці гэта ўсё!**

— Безумоўна, не. Прычын забруджвання навакольнага асяроддзя значна больш. І апроч ужо названых, трэба адзначыць такую тыпова беларускую з'яву, як меліярацыя. Колькі яна зрабіла шкоды нашай прыродзе!

**— Тым не менш меліяраваць землі неяк трэба.**

— Але не бяздумна, не ўсе агулам, як гэта рабілася ў 60-я—70-я гады.

**— Ці ўлічваецца меркаванне вашых спецыялістаў!**

— У міністэрстве ёсць спецыяльнае ўпраўленне, якое займаецца экалагічнай экспертызай праектаў, у тым ліку і меліярацыйных. Калі яго заключэнне адмоўнае, дазвол на правядзенне работ не выдаецца. Пры ігнараванні меркавання эколагаў справа набывае ўжо характар процізаконны.

Зараз меліярацыя, хаця і не ў такіх маштабах, як раней, перакачавала з Палесся, цэнтральнай і заходняй часткі на поўнач Беларусі з яе ўзгоркавым ландшафтам, дзе падобнае ўмяшанне можа выклікаць вельмі сур'ёзныя і небяспечныя экалагічныя вынікі — узмацненне эрозіі, разрыў існуючых экасістэм. Куды больш карыснай была б экалагічная рэкультывацыя Палесся: там застаўся сапраўды мізэрны пласт глебы, які няшчадна разносіцца вятрамі. Хутка не будзе чаго і аднаўляць. Здаецца, усе ўсё разумеюць, але...

**— ...Але, як заўсёды, — грошы!**

— Так, не хапае матэрыяльных сродкаў.

Хачу адзначыць яшчэ адну акалічнасць, што апошнім часам нас вельмі непакоіць: аслабленне барацьбы зляснымі драпежнікамі. Калі ў 80-я гады налічвалася прыблізна 2 600—2 800 ваўкоў, бо быў арганізаваны спецыяльны адстрэл (за кожнага ваўка паляўнічы атрымліваў па 100 рублёў — па тых часах значныя грошы, а за кожных пяць — бясплатную ліцэнзію на лася), то цяпер справа стала матэрыяльна нявыгаднай, і колькасць гэтых драпежнікаў рэзка павялічылася. Бачачы такую сітуацыю, два гады назад мы аднавілі выплату паляўнічым заахвочвальных узнагарод за здабычу ваўка, таму зноў здолелі выйсці на лічбу 2 500—2 600 галоў.

**— Ці кідаюцца зараз ваўкі на людзей!**

— На гэты конт ходзіць шмат страшных легенд. Але ў працэсе працяглых зносін з чалавекам воўк выпрацаваў пэўныя навыкі даволі "мірнага" суіснавання, а таму напады рэдкія, звычайна толькі, калі драпежнік хворы або стары і ў яго не хапае ўжо сіл на дзіка ці лася, вось ён і бярэцца за хатнюю жывёлу, сабак. Раздолле ваўкам у зоне радыеактыўнага адсялення, дзе таксама рэзка павялічылася колькасць казуль, ласёў, дзікоў.

**— А як ідуць справы ў валадара беларускіх пушчаў — зубра!**

— У нас сёння прыблізна 370 зуброў. Як вядома, папуляцыя ўзнікла літаральна ад некалькіх асобін, што прывяло да імбрыдынгу — блізкароднаснага скрыжавання. Апошнім часам у белавежскіх зуброў выяўлена новая хвароба, пакуль яшчэ вучоныя ламаюць галаву — адкуль і як, але ўвогуле прыходзяць да высновы, што гэтае захворванне моча-палавой сістэмы — вынік менавіта імбрыдынгу. Такіх жывёл-самцоў мы вымушаны адстрэльваць.

**— Звычайна Белавежа лічылася месцам "царскага палявання", прычым не толькі пры царах. Ці ўплываў неяк гэты фактар на становішча ў пушчы!**

— Так, Белавежская пушча бачыла многіх уладных асоб — і сваіх, і замежных. Тут заўсёды спецыяльна падтрымлівалася вялікая колькасць паляўнічай жывёлы, у першую чаргу капытных. І гэта зноў прывяло да чарговай праблемы — падарвана кармавая база Белавежскай пушчы — жывёлы абгрызалі галінкі рэдкіх раслін, ламалі і растоптвалі маладыя парасткі. Знішчаўся унікальны ў Еўропе лясны комплекс.

**— Такім чынам, кожны крок чалавека "па прыродзе" пакідае на ёй адбітак, свой след.**

— На жаль, часцей нядобры. Але размаўляць з прыродай на мове сілы нельга. Нічога не атрымаецца. І ў рэшце рэшт нам жа, людзям, даражэй і абыдзецца.

Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.

# АКАДЭМІЧНЫЯ ПОГЛЯДЫ НА Ф. СКАРЫНУ Ў МІНУЛЫМ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

магчымымі прывілеямі і ўладарыць, як ёй захочацца. Таму яны і падводзілі пад сваю ўладу тэарэтычную базу, падмяняючы дыктатуру пралетарыяту сваёю дыктатурай. Вось якая гучная фраза на карысць працоўнага люду была ў тым жа артыкуле В. Кнорына: "Для пралетарыяту права беларускіх працоўных на беларускую мову выцякае зусім не з таго, што жыў і працаваў на беларускай мове сярэдневяковы манах Скарына, а ад рэвалюцыйнага раўнапраўя ўсіх народаў, нават самых адсталых, ад права кожнага чалавека карыстацца культурнымі набыткамі на роднай мове. Таму пралетарская дзяржава ня можа нікога з сярэдневяковых манахаў — прадстаўнікоў былых пануючых класаў зрабіць шэфамі новай нацыянальнай па форме, пралетарскай па зместу культуры". Такім чынам, партыец адмаўляў ролю Ф. Скарыны ў адраджэнні беларускай мовы і літаратуры.

Наступ партыйнай наменклатуры быў вельмі татальны і агрэсіўны, хаця В. Кнорын заявіў, што "за гэтыя памылкі ніхто не нясе індывідуальнай, асабістай адказнасці. Мы ўсе, разам, за іх адказныя і ўсе разам шляхам адкрытай крытыкі павінны іх выправіць". Аднак, як заўсёды, гэта было крывадушша партыйнай наменклатуры. Шмат людзей з інтэлігенцыі Беларусі апынуліся за турэмнымі кратамі.

Артыкул В. Кнорына быў тыражыраваны. Ён з'явіўся ў часопісе "Асвета" і ў асобнай кніжцы ў тым жа годзе пад назвай "За культурную рэвалюцыю". Адразу зазначым, што публікацыя адыграла вельмі шкодную ролю ў скарыназнаўстве і ўвогуле ў навуковым і культурным жыцці Беларусі.

Пасля такога выступлення ў друку галоўнага партыйнага функцыянера вернападданыя партыйнай наменклатуры дырэктары Інстытута філасофіі АН БССР акадэмік С. Вальфсон, Інстытута гісторыі АН БССР акадэмік В. Шчарбакоў, Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б членкарэспандэнт С. Агурскі, а таксама грамадскія дзеячы — пісьменнікі акадэмік Цішка Гартны, члены-карэспандэнты А. Александровіч і П. Глебка актыўна ўключыліся ў барацьбу супраць Ф. Скарыны.

Як было прынята ў той час і захавалася ў нашы дні, кожны, хто хацеў заставацца ў абойме кіруючых кадраў, павінен быў працытаваць высокае начальства ў сваім артыкуле. Гэта шпарка зрабіў С. Вальфсон у артыкуле "Мова і класавая барацьба". Вальфсон і яго супрацоўнікі па кафедры марксізму-ленінізму Інстытута філасофіі падрыхтавалі працу супраць так званых нацдэмаў, у якой адмаўлялі вытокі беларускай навукі і культуры ў сярэднявеччы, рашуча выступаючы супраць даследавання жыцця і дзейнасці Ф. Скарыны. У наступных публікацыях дырэктар Інстытута філасофіі выказаў свае адносіны да беларускага першадрукара. Ён з усім цяжарам сваёй недасведчанасці і партыйнай абмежаванасці накінуўся на скарыназнаўства, даказваючы, што такая навука служыць толькі нацдэмам, якія Скарыну выкарыстоўваюць у палітычных захадах супраць савецкай дзяржавы і пралетарскай культуры. У артыкуле "Ідэалогія і мэтадалогія нацдэмакратызму" С. Вальфсон пісаў: "Адным з вельмі пашыраных мэтадаў дзейнасці нацдэмаў з'яўляецца самая бессаромная фальсіфікацыя гістарычнага мінулага Беларусі. Адным з важнейшых актаў гэтай фальсіфікацыі з'яўляецца ператварэнне ў продка беларускай пралетарскай культуры Францішка Скарыны. 400-годдзе перакладу Скарынавай Біблії на беларускую мову дае нацдэмам повад да шумнай нацыяналістычнай дэманстрацыі, якая пракацілася па ўсёй БССР. Навуковыя ўстановы Беларусі аддаюць сваю энергію высвятленню пытання аб тым, ці быў Скарына "каталікам, хрышчоным паводле лацінскага абраду, ці ён перакінуўся ў праваслаўе. Шаноўныя вучоныя з запалам абмяркоўваюць "шчакаціхінскую гіпотэзу", якая ўстанаўляе на аснове даследавання скарынінскага гербу і астралагічных прынцыпаў XVI веку дакладны дзень нараджэння Скарыны. Імя Скарыны прысвойваецца культурным установам БССР. Навакол Скарыны ўтвараецца арэол роданачальніка беларускай культуры, якая ставіцца пад знак "скарынінскай традыцыі..."

У 30-х гадах на Беларусі найбольш поўна і маштабна адмоўныя адносіны да Ф. Скарыны выклаў дырэктар Інстытута гісторыі АН БССР імя М. Пакроўскага В. Шчарбакоў. Захапіўшыся барацьбой з так званымі нацдэмамі, у сваёй кнізе "Нарыс гісторыі Беларусі" ён пісаў: "Нацыянал-дэмакраты ідэалізавалі Скарыну і іншых падобных да яго. Вядома, Скарына перакладаў біблії і часасловы, друкаваў іх. Але каму служылі яны? Чые інтарэсы абаранялі гэтыя рэлігійныя творы? Яны перакладаліся для таго, каб працоўны селянін або рамеснік горада мог іх свабодна чытаць. Але ці не ўкараняў гэтым самым Скарына ў масы працоўных рэлігійныя ідэі, рэлігійную мараль, ці не выхоўваў ён іх у духу пакорлівасці пануючаму класу? Безумоўна, дапамагаў і, як прадстаўнік купецтва, ён не мог не рабіць гэтага. Скарына распаўсюджаннем рэлігійных кніг на роднай мове садзейнічаў развіццю агульнанацыянальнага рынку, які меў патрэбу ў адзінай мове, зразумелай для ўсіх. Але гэта рабіў ён не ў інтарэсах працоўных мас, аб іх ён менш з ўсё думаў, а ў інтарэсах купецтва, якое разам з панамі і шляхтай эксплуатавала гэтыя масы".

Вось такі арыгінальны падыход да дзейнасці Ф. Скарыны быў у В. Шчарбакова. Аўтар не турбаваў сябе ўдумлівым, глыбокім вывучэннем сярэдневяковай гісторыі Беларусі, ён быў далёкі ад разумення таго, што рэлігійны светапогляд быў пануючым у той час, а кнігі Біблії беларускі гуманіст імкнуўся выкарыстаць для свецкага навучання сямі "вызваленым мастацтвам". Усё ж яму давялося прызнаць, што выданні Ф. Скарыны служылі для навучання людзей з народа чытанню, аднак В. Шчарбакоў лічыў: гэта не тыя кнігі, па якіх павінны вучыцца простыя людзі. Агульнавядома, што ў той час адзінымі падручнікамі для навучання грамаце былі псалтыры і часасловы, пра гэта забыўся сказаць аўтар "Нарыса гісторыі Беларусі". Якраз такіх падручнікаў ці, лепш сказаць, навучальных кніг не хапала сялянам і гарадскім жыхарам у тую далёкую пару.

Вульгарна-сацыялагічны падыход яўна прасочваецца і ў выказваннях В. Шчарбакова ў адносінах да сацыяльнай накіраванасці выданняў Ф. Скарыны, калі ён гаварыў, што кнігі ўсходнеславянскага першадрукара былі створаны ў інтарэсах эксплуататарскіх класаў і перш за ўсё гандляроў, а пераклады Біблії — для ўтварэння агульнанацыянальнага рынку. Праца гэтага беларускага гісторыка сведчыць, што аўтар не валодаў ведамі аб рэальным гістарычным працэсе сярэднявечча Беларусі, яе культурных каштоўнасцях. Трэба адзначыць, што В. Шчарбакоў сваімі працамі і выказваннямі задаваў тон у гістарычнай навуцы Беларусі, таму што быў у кіраўнічых эшалонах акадэмічнай эліты.

Для таго каб навочна паказаць усю негрунтоўнасць канцэпцый В. Шчарбакова, прывядзем яшчэ адну цытату з яго кнігі: "Яны (нацдэмы. — **М. Б.**) з захапленнем пісалі аб такіх праваднiках культуры таго часу, якім з'яўляўся сын полацкага купца Францішак Скарына, аб Васілі Цяпінскім, Сымоне Будным. Яны абмалёўвалі гэтых людзей як самых перадавых, самых ідэальных людзей не толькі таго часу, а наогул у гісторыі Беларусі, называючы іх гуманістамі, асветнікамі, носьбітамі лепшых чалавечых ідэалаў".

Аўтар кнігі "Нарыс гісторыі Беларусі" не зрабіў глыбокі навуковы гісторыка-сацыялагічны аналіз эпохі Адраджэння і гуманізму ў Беларусі. Ён не разумеў таго, што выданне Ф. Скарынай Біблії адбірала ў царквы выключныя правы на адукацыю. Кніга В. Шчарбакова ў выніку з'явілася не як навуковае даследаванне. Сам стыль і падача матэрыялу гавораць пра невысокую эрудыцыю аўтара. Ён зрабіў неверагоднае: адарваў Ф. Скарыну, С. Буднага, В. Цяпінскага ад друкарань, у якіх яны працавалі. Неверагодна, але В. Шчарбакоў вельмі станоўча адзначае дзейнасць гэтых друкарань як прагрэсіўныя моманты ў гісторыі феадальнай Беларусі. Ён зрабіў такія абагульненні: "Такім чынам, у той час паявілася многа новага, што можа быць аднесена да культуры, але да культуры панска-шляхецкай, купецкай і ні ў якім выпадку не да агульнанароднай". Вызначэнне вытокаў кнігадрукавання ў гісторыі культуры Беларусі як з'явы мэтанакіраванай у інтарэсах пануючых класаў не вытрымала праверкі часам. Дэмакратычнасць, даступнасць навучальнай кнігі — характэрная асаблівасць гісторыі асветы ўсходнеславянскіх народаў. Яна абслугоўвала розныя сацыяльныя пласты свецкага і духоўнага грамадства.

Такую ж пазіцыю, як С. Вальфсон і В. Шчарбакоў, у вывучэнні гісторыі і культуры Беларусі, на жаль, займаў адзін з выдатных грамадскіх дзеячаў, вядомы пісьменнік Цішка Гартны (З. Жылуновіч). Свае адносіны са знакам мінус да першадрукара ён, як пісьменнік, выказаў вельмі эмацыянальна, але не слушна, таму, чытаючы ягоныя артыкулы, адчуваеш няёмкасць за таленавітага чалавека, які сваё жыццё паклаў за Беларусь за кратамі. У тыя небяспечныя гады ён пісаў у артыкуле "Як прыгоннік стаў народнікам": "...Асабліва ўлюбёнай галіной для сваіх "вопытаў" нацыянал-дэмакраты лічылі гісторыю Беларусі. На гісторыі яны будавалі свае канцэпцыі беларускай самабытнасці, выводзілі законы нацыянальнай героікі, раскопвалі аналы старасветчыны, ідэалізуючы яе падзеі і ўдзельнікаў гэтых падзей. Фр. Скарына, Аўрам Смаленскі, Кірыла Тураўскі, розныя князі і святыя, узднманыя з пагнілых трун, з патлеўшых абразоў, ажываліся і складаліся ў храналёгію "Беларускай мінуўшчыны". Стосы гістарычных "прац" Акадэміі прысвечаны сярэднявяковай гнілі, якая смакуецца нацыянал-дэмакратамі, як пікантная страва, прыхарошваецца і атульваецца арэолам нацыянал-дэмакратычнай гераічнасці".

Трохі раней падобныя думкі Цішка Гартны выказаў у артыкуле "Нацыянал-дэмакраты за працай". Ён граміў Інбелкульт і ўсю культурную грамадскасць Беларусі за тое, што "Скарына і Каліноўскі фігуравалі ў бюстах і ў тэатры на сцэне, у вершах і на юбілейных святкаваннях. Нацыянал-дэмакратычнае паветра атуляла паасобныя вучасткі злачынна даверанага нацыянал-дэмакратам родам нацыянал-апартуністаў культурнага фронту. З Інбелкульту, як са штабу, працягваліся да яго агідныя шчупальцы белагвардзейскіх падрыўнікоў". Вось такое паветра вульгарна-сацыялагічнай крытыкі згінала і знішчала нацыянальныя каштоўнасці беларускай культуры.

Пісьменнікі не толькі пісалі артыкулы, але, каб быць у пашане ў партыйнай наменклатуры і ў савецкай вышэйшай улады, выступілі на X з'ездзе Саветаў 25 лютага 1931 года. З прывітальнай прамовай выступіў вядомы паэт Андрэй Александровіч. Ён абрушыўся на Ф. Скарыну, сказаўшы ў сваёй прамове: "Замест актыўнага ўдзелу ў штурмах сацыялістычнага будаўніцтва "кіты"-акадэмікі нацдэмы выпрацоўвалі статуты аб узнагародах за навуковыя "арыгінальныя" працы медалямі трох ступеняў імя нацыянальнага беларускага езуіта Францішка Скарыны. Таварышы, гэта прадукт дзейнасці варожых сіл у нашых навуковых установах". Горка чуць такі заклік да "пільнасці" ад чалавека, які павінен быў узняцца над такой брыдкай з'явай і не патураць партыйнай і савецкай наменклатуры. Такі быў час, які забіраў і забіваў сваіх сыноў — таленавітых людзей Беларусі. Чамусьці паэту П. Глебку не дагадзіў літаратуразнавец А. Бабарэка, і пісьменнік выступіў з разгромным артыкулам у часопісе "Узвышша" супраць яго. Вельмі адмоўна П. Глебка ў той час ставіўся да дзеячаў "залатога веку", не прызнаючы вытокаў беларускай літаратуры ў сярэднявеччы. Сама назва артыкула "Нацдэмаўшчына, замаскаваная марксісцкай фразай (Пра літаратурназнаўчую працу Бабарэкі)" гаворыць аб яго крытычным змесце.

Аўтар артыкула даў адмоўную ацэнку дзейнасці Ф. Скарыны. Вось што ён пісаў: "Трэба думаць, што, на погляд Бабарэкі, Беларусь мела да часоў Дуніна-Марцінкевіча нейкі свой "залаты век" літаратуры, якую ўзяліся адраджаць шляхецкія пісьменнікі-"нашаніўцы" і сучасныя. Такім "залатым векам" беларускай літаратуры нацыянал-дэмакраты лічылі XV—XVI стагоддзі, калі на ніве беларускага "прыгожага пісьменства" "працавалі" такія "выдатныя творцы", як Васіль Цяпінскі, Фёдар Еўлашэўскі, Францыск Скарына і інш., калі былі створаны "помнікі прыгожага пісьменства", як духоўныя вершы, пераклады Біблії і варажбітных кніг. Вось усю гэту сярэдневяковую мешаніну папоўшчыны і забабонаў, мешаніну царкоўнаславяншчыны з дзесяткам беларускіх слоў нацыянал-дэмакраты выстаўлялі як "залаты век" беларускай літаратуры".

Беларускі паэт адмаўляў паступовае развіццё беларускай літаратуры, лічачы яе вонкавай з'явай Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Трохі пазней узяўся выкрываць ролю нацдэмаў у гісторыі Беларусі С. Агурскі. Ужо загінуў прэзідэнт Акадэміі навук У. Ігнатоўскі, але дырэктар Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б не мог дараваць яму добрыя адносіны да беларускага першадрукара, і таму з'явілася такая тырада партыйца: "У той жа час Ігнатоўскі ў гэтай брашуры (У. Ігнатоўскі. Беларусь. — **М. Б.**) вельмі падрабязна апісвае партрэт каталіка Францішка Скарыны, які першым надрукаваў Біблію на беларускай мове, ён расказвае таксама аб тым, што Скарына друкаваў кнігі для "простага народа". Для гэтых апісанняў Ігнатоўскі знайшоў месца ў сваёй маленькай брашуры, але сказаць некалькі слоў аб ролі бальшавіцкай партыі ў Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Беларусі ён лічыў лішнім".

Сапраўды акадэмік У. Ігнатоўскі заўсёды станоўча адносіўся да дзейнасці Ф. Скарыны.

Вельмі дасведчаным у скарыназнаўстве быў, безумоўна, У. Пічэта, які для вывучэння жыцця і дзейнасці Ф. Скарыны зрабіў шмат даследаванняў, што і зараз не згубілі сваіх навуковых каштоўнасцяў. Ён паслядоўна адстойваў правы Ф. Скарыны на існаванне ў беларускай навуцы, падкрэсліваў гуманістычны накірунак яго дзейнасці.

Цікава, што У. Пічэта, як гэта ні было цяжка, заставаўся прыхільнікам Ф. Скарыны і ў 20-х і 40-х гадах, прытрымліваўся прагрэсіўных поглядаў на беларускага першадрукара. Прывядзем толькі некалькі фрагментаў з яго прац. Вось, што ён казаў у 20-х гадах у артыкуле "Дзве культуры на Беларусі": "Гарадскія гуманісты высока ацэньваюць чалавечую годнасць, чалавечую асобу і накіроўваюць свае думкі да апошняй... Калі рэлігійны скептыцызм у творах Францыска Скарыны выявіўся ў свабодным паразуменні і тлумачэнні тэкста Святога пісьма, у чым немагчыма не бачыць уплыву крытычнага духу гуманізму... Калі гуманісты XVI ст., перакладаючы кнігі Святога пісьма на беларускую мову, мелі намер адукаваць народ і паказаць, што мова наша родная яшчэ не памерла, а жывая і можа быць крыніцай асветы і культуры..."

Сваю адукаванасць і прыстойнасць захаваў акадэмік У. Пічэта і ў 40-х гадах, хаця жыццёвыя абставіны ў рэпрэсіўным асяроддзі маглі зламаць вучонага. У кнізе "Основные моменты исторического развития Западной Украины и Западной Белоруссии", якая выйшла ў Маскве ў 1940 годзе ён адзначаў: "Мешчанін горада Полацка Францыск (Георгій) Скарына, "доктар лекарскіх навук", выдаў у 1517—1524 гг. (?) у Празе ва ўласнай друкарні ў сваім перакладзе на мову "простага люду" большую частку Біблії.

Перабраўшыся ў Вільню, Скарына ў 1525 годзе выдаў "Апостал" і "Малую падарожную кніжыцу", чым паклаў пачатак друкарскай справе на Беларусі. Друкаваныя выданні таго часу сведчаць аб высокім узроўні друкарскай справы на Беларусі і на Украіне". І тут жа смела спаслаўся на сваю працу "Беларускае адраджэнне XVI ст. Менск, 1926". Такім чынам, ён падкрэсліў непахіснасць сваіх поглядаў на дзейнасць Ф. Скарыны.

У канцы 30-х гадоў у сувязі з падзеямі другой сусветнай вайны патрэбны былі новыя падыходы да выхавання савецкага патрыятызму і стала зразумела, што без гістарычных культурных каранёў гэта зрабіць немагчыма. Адбылася пераацэнка духоўных каштоўнасцей беларускага народа, і з'явіўся зусім новы навукова-даследчы падыход да вывучэння жыцця і дзейнасці Ф. Скарыны і іншых дзеячаў, што адыгралі станоўчую ролю ў гісторыі культуры Беларусі ў XVI—XVII стагоддзях. У Інстытуце гісторыі АН БССР рыхтавалася да выдання навуковая праца "Нарысы па гісторыі Беларусі", кіраўніком калектыву аўтараў быў дырэктар інстытута акадэмік М. Нікольскі, а навуковым рэдактарам акадэмік У. Пічэта. Яны падрыхтавалі да вайны першую частку гэтай кнігі, у якой станоўча ўспрынята і адзначана дзейнасць Ф. Скарыны і паказаны яго культурны ўплыў на стварэнне друкарні Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца ў Маскве. Падкрэслена важнасць горада Вільні як культурнага цэнтра для пашырэння асветы на Беларусі. Аднак пра беларускага першадрукара даецца вельмі скарочаная і няпоўная, часам з памылкамі інфармацыя.

Карэктура гэтага выдання, што не выйшла, захоўваецца ў фондах аддзела рэдкай кнігі і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі АН Беларусі імя Якуба Коласа.

Яшчэ адно падштурхнула беларускіх даследчыкаў займацца скарыназнаўствам — гэта тое, што ім стала вядома, што ў розных краінах свету, у тым ліку ў Расіі, Польшчы, Чэхаславакіі, вучоныя зусім інакш, чым на Беларусі, ацэньвалі дзейнасць Ф. Скарыны. Замежныя даследчыкі добра ведалі беларускага гуманіста і першадрукара і разглядалі яго ў кантэксце славянскай навукі і культуры.

Адчуваючы такія прынцыповыя змены ў адносінах да навуковай і культурнай спадчыны Беларусі, навукоўцы, пісьменнікі, а таксама публіцысты кардынальным чынам змянілі свае адносіны да Ф. Скарыны. Давялося гэта зрабіць і акадэмікам С. Вальфсону і П. Глебку. На жаль, многія з іх ужо не змаглі зрабіць гэтага, таму што былі закатаваны і забіты сталінскім рэжымам.

**Марат БАТВІННІК,**
**кандыдат гістарычных навук.**

## ЗОРА І ВІТАЎТ КІПЕЛІ:
## ДА 70-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

# АПАНТАНЫЯ БЕЛАРУСКАЙ СПРАВАЙ

Усяму свядомаму беларускаму свету знаёмыя імёны Зоры і Вітаўта Кіпеляў, якія сёлета адзначаюць свае юбілеі: Вітаўт — 30 мая, Зора — 1 ліпеня (нарадзіліся ў Мінску ў 1927 годзе). З 1956 года, стварыўшы ўласную добрую сям'ю, гэтыя светлыя, духоўна багатыя, шчырыя людзі ідуць па жыцці разам, выхавалі ў беларускім духу двух дзяцей, далі ім вышэйшую адукацыю: сын Юрка — доктар медыцыны, дачка Алеся — вядомы ў Вашынгтоне юрыст (дарэчы, у гэтым годзе і Алеся Кіпель таксама адзначае свой асабісты юбілей). І Алеся, і Юрка выдатна валодаюць беларускай мовай, ведаюць гісторыю далёкай радзімы сваіх бацькоў і дзядоў, не раз бывалі на Беларусі з пачатку 90-х гадоў.

Дзяды і бабулі Алесі і Юркі, а значыць бацькі і маці Зоры і Вітаўта — знакамітыя дзеячы нацыянальнага адраджэння 20-х—30-х гадоў на бацькаўшчыне. Яўхім Кіпель (1898—1969) — бацька Вітаўта — былы выкладчык хіміі, батанікі, заалогіі ў школе (выдаў падручнікі па прыродазнаўству), затым дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, разам з многімі славутымі беларусамі працаваў у Інбелкульце, у Акадэміі навук, займаўся біялагічнымі і фізіялагічнымі навуковымі даследаваннямі. Ён, як і тысячы выдатных беларусаў, стаў ахвярай сталінскіх рэпрэсій. У 1930 годзе Яўхім Кіпель без усялякай віны быў арыштаваны і высланы з Беларусі на Поўнач, у Налінск, потым у Вятку, як высылаліся М. Гарэцкі, У. Дубоўка, У. Жылка, М. Грамыка і многія іншыя пісьменнікі і беларускія дзеячы, што трапілі ў бязлітасную навалу рэпрэсій пачатку 30-х гадоў.

Жонка Яўхіма Кіпеля — настаўніца Марыя Зубкоўская, — яго верная і самаахвярная спадарожніца, разам з малым сынам Вітаўтам паехала за мужам у высылку, дзе Кіпелі пражылі да 1935 года. Па савецкіх законах, як вядома, ссыльным не дазвалялася вяртацца на радзіму і жыць у сталічных гарадах, і таму Кіпелі вымушаны былі пасяліцца ў рускім горадзе Арле. Маці ўдалося ўладкавацца настаўніцай, а бацьку, які не паспеў адчуць волі, зноў арыштавалі і ў снежні 1935 года вывезлі ў пяцігадовае зняволенне, якое ён адбываў ужо ў байкала-амурскіх канцлагерах.

Можна ўявіць сабе становішча безабароннай жанчыны з малым дзіцем, пазбаўленай радзімы, жонкі "ворага народа". Марыі Зубкоўскай неаднойчы прапаноўвалі адрачыся ад мужа, змяніць дакументы, запісацца рускай, але яна, шчырая беларуска, не здрадзіла свайму сумленню і вернасці мужу, як цяжка ёй ні даводзілася. (І нездарма пазней Вітаўт Кіпель свае навуковыя і публіцыстычныя артыкулы падпісваў у памяць маці — В. Зубкоўскі). Больш таго, пакуты выпалі і на долю яе бацькі, старога Зубкоўскага, і ён вымушаны быў пераехаць да дачкі і ўнука ў Арол, таму што ў яго, як у цесця "ворага народа", адабралі хату ў Мінску. Так, разам з маці і дзедам Вітаўт чакаў вяртання бацькі. Яўхім Кіпель вызваліўся ў 1940 годзе, але яму не дазволілі жыць у Арле, абласным горадзе, і ён пасяліўся ў адной з вёсак на памежжы Бранскай і Арлоўскай абласцей. І толькі ў 1942, калі ішла другая сусветная вайна, сям'я вярнулася ў Мінск, дзе Яўхім Кіпель уключыўся ў беларускі вызваленчы рух. Ён быў удзельнікам Другога усебеларускага кангрэса, на якім старшынстваваў. У 1944 годзе Кіпелі назаўсёды пакінулі радзіму. Вітаўту ішоў тады семнаццаты год.

Не менш драматычнай, шмат у чым падобнай была і гісторыя жыцця Зоры. Яна нарадзілася ў сям'і таленавітага беларускага пісьменніка Лявона Савёнка (1897—1974). Ён пісаў пад псеўданімамі Лявон Крывічанін і Леанід Свэн. Маці Зоры — настаўніца Апалонія Радкевіч, мінчанка, была асабіста добра знаёмая з Уладзіславай Францаўнай, жонкай Купалы (дарэчы, з малой Зорай яна часта бывала ў Купалавай сям'і). Лявон Савёнак, скончыўшы Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, дзе разам з ім вучыліся будучыя вядомыя грамадскія дзеячы С. Рак-Міхайлоўскі, П. Мятла, Ф. Валынец, паэт Міхась Чарот, некаторы час працаваў настаўнікам у Глыбокім, потым пераехаў у Мінск, дзе і пазнаёміўся з маладой настаўніцай, сваёй будучай жонкай. Па прапанове У. Ігнатоўскага Лявон Савёнак стаў рэпарцёрам газеты "Савецкая Беларусь". Давялося шмат ездзіць, пабачыць жыццё глыбіннай Беларусі. Яго фельетоны, рэпартажы, апавяданні часта друкаваліся на старонках рэспубліканскіх газет і часопісаў. Быў выдадзены зборнік апавяданняў і фельетонаў "Чароўная іголка" (1929). Аднак пісьменніцкая творчасць маладога аўтара хутка абарвалася. Лявон Савёнак быў арыштаваны і ў 1933 годзе высланы ў Сібір. Жонка, апасаючыся рэпрэсій, вымушана была ратавацца і выехала з малой дачкой у Крычаў, перажываўшы шмат пакут і страху. Вярнуўся Лявон Савёнак толькі ў 1939 годзе. Падчас вайны жылі ў Мінску, пісьменнік друкаваўся ў "Беларускай газэце", дзе супрацоўнічала Наталля Арсеннева, якая напярэдадні вайны таксама вярнулася з высылкі з двума сынамі. Творы Лявона Савёнка ваеннага часу друкаваліся пад псеўданімам Лявон Крывічанін і выходзілі пад агульнай назвай "Дзённік Чужанінава" (пазней, ужо ў ЗША, Лявон Савёнак часта друкаваўся ў беларускіх эміграцкіх выданнях, публікаваў свае выдатныя апавяданні, фельетоны, у якіх паўставалі злабадзённыя праблемы жыцця беларускай эміграцыі).

У 1944 годзе сям'я Савёнкаў, як і сем'і многіх іншых беларусаў, пайшла ў выгнанне. Жылі спачатку ў Германіі, у лагерах перамешчаных асобаў у Міхельсдорфе, Рэгенсбургу. Тут сабралася шмат беларусаў, наспела вострая патрэба вучыць дзяцей. Са снежня 1945 года Зора і Вітаўт пачалі вучыцца ў беларускай гімназіі імя Янкі Купалы, арганізаванай беларусамі-эмігрантамі ў Рэгенсбургу. Дырэктарам гімназіі быў Аляксандр Орса, а настаўнікамі такія выдатныя выкладчыкі, як Наталля Орса, Аўген Каханоўскі, Антон Адамовіч, Янка Станкевіч, Іна Рытар, Мікола Равенскі, пазней Наталля Арсеннева, маці Зоры — Апалонія Савёнак (дарэчы, у 1946 годзе яна выдала "Беларускі лемантар").

Пасля сканчэння гімназіі ў 1948 годзе Вітаўт Кіпель і Зора Савёнак паступілі ў Цюбінгенскі універсітэт, але пасля двух семестраў вучобы беларускія навучэнцы пераехалі ў Бельгію і сталі студэнтамі Лювенскага універсітэта. У 1953 годзе Вітаўт Кіпель скончыў геалагічны факультэт Лювенскага універсітэта з кандыдацкай дысертацыяй, а Зора Савёнак — са званнем магістра арганічнай хіміі. І Вітаўт, і Зора разам з такімі актыўнымі юнакамі беларускага руху, як Янка Запруднік, удзельнічалі ў студэнцкіх арганізацыях і Саюзе беларусаў Бельгіі. На пачатку 50-х гадоў многія беларускія сем'і, у тым ліку Кіпелі і Савёнкі, пераехалі з Еўропы ў ЗША. Амерыка стала краінай, дзе заснавалася маладая сям'я Зоры і Вітаўта, з'яднаная не толькі адзінствам поглядаў, адданасцю беларускай ідэі, але і духоўнымі, творчымі інтарэсамі. І самае галоўнае, апынуўшыся ў вольным свеце, маючы вышэйшую, еўрапейскага ўзроўню адукацыю, прэстыжныя спецыяльнасці, неабходныя для забеспячэння матэрыяльнага дабрабыту сям'і, яны, тым не менш, усе свае лепшыя гады прысвяцілі служэнню Бацькаўшчыне, захаванню прысутнасці і вядомасці Беларусі ў свеце. Папрацаваўшы некалькі год па сваіх спецыяльнасцях геолага і хіміка, Вітаўт і Зора вырашылі набыць гуманітарную адукацыю і скончылі бібліятэчны факультэт Ратгерскага універсітэта (штат Нью-Джэрсі). З шасцідзесятых гадоў яны пачалі працаваць у Нью-Йоркскай публічнай бібліятэцы — Вітаўт Кіпель загадчыкам навуковага аддзела і рэдактарам бюлетэня "Новыя тэхнічныя кнігі", а Зора — спачатку каталагізатарам навуковай літаратуры, а з 1981 па 1991 — намеснікам загадчыка славянскага аддзела. Вітаўт Кіпель з 1982 года стаў дырэктарам Беларускага інстытута навукі і мастацтва (БІНіМ) у Нью-Йорку, заснаванага ў 1951 годзе, а Зора, захапіўшыся беларускай літаратурай, асабліва рукапіснай спадчынай XVI стагоддзя, зноў паступіла ў Ратгерскі універсітэт на факультэт параўнальнага літаратуразнаўства, які скончыла ў 1988 годзе. Так, усё жыццё папаўняючы свае веды, Зора і Вітаўт Кіпелі нястомна працавалі на ніве беларускага нацыянальнага адраджэння, хоць і жылі далёка ад Беларусі, пакінуўшы яе ў юнацкім узросце. Якія трэба мець магутныя, трывалыя беларускія карані, асабліва прыклад бацькоў, як трэба любіць радзіму, каб перадаць свой спадчынна-беларускі генетычны код дзецям і самім усё жыццё палажыць на святы алтар далёкай Бацькаўшчыны свае веды, талент, працавітасць, шматгранную творчасць, па драбніцах збіраць усё лепшае, што створана беларусамі-эмігрантамі дзеля айчыны.

Іх творчая і грамадская дзейнасць надзвычай шматгранная. Яны разам апрацоўвалі беларускую бібліяграфію, склалі бібліяграфічны даведнік "Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе" (1985), хрэстаматыю "Беларуская дзяржаўнасць" (1988 год, на англійскай мове). Склалі таксама некалькі бібліяграфій па грамадазнаўству, гісторыі літаратуры (Скарынінская бібліяграфія, у якой каля трох тысяч назваў, складзена таксама з дапамогай Кіпеляў).

Зора Кіпель за час работы ў Нью-Йоркскай бібліятэцы неаднойчы прымала ўдзел у канферэнцыях бібліятэкараў ЗША, займалася збіраннем і камплектаваннем беларускіх кніг славянскага аддзела бібліятэкі, пастаянна арганізоўвала выставы новых паступленняў і юбілейныя выставы вядомых беларускіх грамадскіх дзеячаў і пісьменнікаў. Правяла вялікую работу па апісанню і камп'ютэрызацыі старадрукаў, падрыхтавала "Даведнік пра этнічныя групы штата Нью-Джэрсі", дзе ў асноўным жывуць беларусы. З яе ўдзелам былі выдадзены ў Нью-Йорку зборы твораў Наталлі Арсенневай ("Між берагамі", 1979), Алеся Салаўя ("Нятускная краса", 1982), Міхася Кавыля ("Міжагнёўе", 1990). Як літаратуразнавец, яна засяродзілася на вывучэнні сярэдневяковай беларускай літаратуры, пераклала старабеларускі перакладны змест "Аповесці пра Трыстана" на англійскую мову, напісала да яе навуковы каментарый і выдала асобнай кнігай у Гарландскай серыі сярэдневяковай літаратуры. На аснове гэтага яна выдала кнігу, па сутнасці, новае даследаванне "Этнічныя элементы ў беларускім Трыстане XVI ст.". Яе творчая, даследчыцкая работа працягваецца і сёння, у хуткім часе павінна выйсці кніга "Беларуская літаратура XV—XVII ст.ст.". Зора Кіпель — аўтар шматлікіх артыкулаў па бібліятэчнай справе, асвеце, нацыянальнай культуры і літаратуры беларусаў, якія друкаваліся ў англамоўных і беларускамоўных перыядычных выданнях замежжа, што пашырала, папулярызавала тым самым веды пра Беларусь у вялікім свеце. Разам з Вітаўтам яна ўдзельнічала ў шматлікіх міжнародных канферэнцыях, міжнародных кангрэсах беларусістаў, з'яўляецца членам Амерыканскай асацыяцыі славянскіх даследаванняў. Калі ўлічыць яе абавязкі добрай, клапатлівай маці, жонкі, хатняй гаспадыні — даводзіцца толькі здзіўляцца зробленаму ёю на адраджэнскай, навуковай, асветніцкай ніве, па-добраму зайздросціць яе падзвіжніцкай дзейнасці, яе ўменню весці дом, заўсёды добра выглядаць, з густам апранацца, быць у цэнтры грамадскага і культурнага жыцця беларусаў у далёкім замежжы.

Не меншае захапленне выклікае дзейнасць Вітаўта Кіпеля як даследчыка, беларусазнаўца, гісторыка, вучонага, грамадскага дзеяча, ганаровага прафесара Гродзенскага універсітэта, дырэктара БІНіМ, аўтара шматлікіх праблемных, публіцыстычных, навуковых артыкулаў, рэцэнзій, рэфератаў, дакладаў, выступленняў. Але з усіх яго прац дастаткова назваць грунтоўнае і першае ў свеце даследаванне пра беларускую эміграцыю "Беларусы ў ЗША" (на англійскай і беларускай мовах, 1993), каб імя Вітаўта Кіпеля назаўсёды засталося ў беларускай гісторыі, не кажучы пра такія працы, як "Беларусы ў Нью-Джэрсі" (1977), "Беларусы ў Кліўлендзе" (1982), "Беларусы ў Нью-Йорку" (1994) — пра заснаванне і дзейнасць найбуйнейшых беларускіх асяродкаў у ЗША.

Вітаўт Кіпель добра вядомы і як амерыканскі грамадскі дзеяч. З маладых гадоў ён быў скаўтмайстрам у амерыканскім скаўтынгу, кіраваў беларускай скаўцкай арганізацыяй, заснаванай у 1972 годзе ў Саўт-Рыверы пры царкве Ефрасінні Полацкай. Быў адным з арганізатараў заснаванага ў Нью-Йорку Беларуска-Амерыканскага камітэта Палітычных дзеянняў, стаяў на чале Федэрацыі беларускіх рэспубліканскіх клубаў, быў віцэ-прэзідэнтам Нацыянальнай канфедэрацыі амерыканскіх этнічных груп, узначальваў у 70-я — 80-я гады Этнічную дарадчую раду пры губернатары штата Нью-Джэрсі, чытаў лекцыі ў Нью-Йоркскім беларускім універсітэце (курс "Беларуская спадчына"), арганізоўваў беларускія фестывалі ў штаце Нью-Джэрсі. Дарэчы, ён уключыўся ў адраджэнскі рух і на Бацькаўшчыне. Як толькі было заснавана Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", В. Кіпель быў абраны сябрам Вялікай рады згуртавання. Вітаўт і Зора разам з дачкой Алесяй прымалі ўдзел у Першым з'ездзе беларусаў свету ў Мінску ў 1993 годзе. Як дырэктар БІНіМ, Вітаўт Кіпель з'яўляецца адным з выдаўцоў часопіса "Запісы БІНіМ". Ён пастаянна супрацоўнічае з газеце "Беларус", займаецца кнігавыдавецкай дзейнасцю, якую ажыццяўляе Беларускі інстытут навукі і мастацтва па збіранню і выданню літаратурнай спадчыны беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў. У мінулым годзе Зора і Вітаўт Кіпелі правялі прэзентацыю серыі выданняў БІНіМ у Мінску ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі, дзе расказалі пра выданне твораў Н. Арсенневай, А. Салаўя, А. Саковіч, М. Кавыля, У. Дудзіцкага, М. Целеша, Ю. Віцьбіча, наогул пра выдавецкую работу інстытута. А Беларускі інстытут у Нью-Йорку — гэта не вялікая навукова-даследчая арганізацыя ў нашым разуменні, а ўсяго некалькі чалавек, апантаных беларускай справай актывістаў, якія збіраюць, выдаюць пісьменніцкую спадчыну ў асноўным на ахвяраванні беларусаў-эмігрантаў і дзякуючы энтузіязму такіх шчырых беларусаў, як Зора і Вітаўт Кіпелі, Янка Запруднік, Антон Адамовіч, Мікола Прускі, Ірэна Рагалевіч-Дутко, апошнім часам Лявон Юрэвіч і многія іншыя бескарыслівыя патрыёты і прыхільнікі беларускасці. Дарэчы, БІНіМ і яго дырэктары — епіскап Васіль (Тамашчык), Янка Ліманоўскі, Вітаўт Тумаш і Вітаўт Кіпель, як і сябры ўправы інстытута, які мае аддзелы ў Еўропе (Мюнхен) і Канадзе (Атава), — Антон Адамовіч, Антон Шукелойць, Зора Кіпель, Янка Запруднік, Юры Станкевіч, прафесар Т. Бэрд — садзейнічалі таму, што інстытут мае багатую беларускую інфармацыйна-даведачную бібліятэку, збірае архівы беларускіх грамадскіх дзеячаў і пісьменнікаў, тут сабраны найбагацейшыя ў свеце кніжныя зборы Скарыніяны і беларусікі ў заходніх мовах. Цяпер і мы можам чытаць і захапляцца цудоўна аформленымі кнігамі беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў, іх творчасцю, дзякуючы таму, што Зора і Вітаўт Кіпелі ў кожны свой прыезд на радзіму прывозілі для нашай нацыянальнай бібліятэкі кнігі, газеты, часопісы, папаўняючы яе фонды забароненымі ў савецкія часы беларускімі эміграцкімі выданнямі, што патрабавала немалых уласных выдаткаў, асабліва калі ўлічыць, колькі ім даводзілася патраціць намаганняў і сіл, каб кожны раз даказваць на беларускай мытні, што яны абсалютна бескарысліва вязуць кнігі для Беларусі.

Гэтым звычайным пералікам спраў і дасягненняў Зоры і Вітаўта Кіпеляў, без усялякіх эмоцый і перабольшванняў, мне хацелася паказаць, чаго вартыя беларусы ў свеце, што здольныя зрабіць для радзімы, каб праславіць яе імя, нягледзячы на тое, што радзіма не заўсёды была ласкавай да выдатных прадстаўнікоў беларускай нацыі, вынішчала іх фізічна ці прымушала ісці ў выгнанне. Нават толькі згадваючы прозвішчы тых беларусаў, пра якіх Вітаўт Кіпель расказвае ў сваёй кнізе "Беларусы ў ЗША", можна выказаць шкадаванне, што такія таленты працавалі на іншыя краіны, быццам яны былі не патрэбныя сваёй Бацькаўшчыне: вучоныя, пісьменнікі, мастакі, кампазітары, медыкі, педагогі, ды і звычайныя працавітыя беларусы, гэта асобы, якія змаглі выстаяць, захавацца ў чужамоўным свеце шчырымі людзьмі, прыхільнікамі беларускасці, якія любілі і ведалі сваю мову, гісторыю, культуру.

Усе, хто ведае Кіпеляў асабіста ці па іх працах, дзякуючы Саюзу пісьменнікаў Беларусі, збяруцца ў Доме літаратара, каб адзначыць іх слаўны юбілей, пажадаць ім моцы і далейшага творчага плёну. Спадзяёмся, што Кіпелі яшчэ не раз прыедуць на радзіму, бо яны нясуць святло беларускасці, веру, што жыла і будзе жыць Беларусь.

**Лідзія САВІК.**

## У ВОРАНАЎСКІХ ЛІТОЎЦАЎ

*У Пелясе і навакольных вёсках Воранаўскага раёна жыве нямала літоўцаў. Многія з іх аб'яднаны ў нацыянальна-культурным таварыстве. Па яго ініцыятыве з дапамогай грамадскасці Літоўскай Рэспублікі тут адкрыта школа, навучанне ў якой вядзецца на літоўскай мове. Дарэчы, сёлета навучальная ўстанова адзначае сваё пяцігоддзе.*

*Пра жыццё і справы літоўцаў Воранаўшчыны расказваюць матэрыялы, якія публікуюцца ніжэй.*

### ДЗЕНЬ МАЦІ

Па прыкладу Літвы Пеляса ў першую нядзелю мая штогод адзначае Дзень маці. З гэтай нагоды ў школе адбылася чарговая ўрачыстасць. На свята прыйшлі дзеці і іх бацькі. У віншавальных словах услаўлялася высокае грамадзянскае прызначэнне жанчыны, называліся прозвішчы і імёны. Цёплыя пажаданні сваім маці і бабулям выказалі вучні на каляровых лісточках, што ўпрыгожылі маляўнічае дрэва на сцяне побач са сцэнай.

Напрыканцы сустрэчы адбыўся канцэрт. Прысутныя па-заліхвацку танцавалі "Кяпурыне", узнёсла спявалі песні.

### НАВЕДАЛІ РЫМДЗЮНЫ

Вёску з такой назвай, што ў Астравецкім раёне і дзе жывуць літоўцы, наведалі іх суродзічы з Пелясы. Госці з Воранаўшчыны прынялі там удзел у Дні рамёстваў. Аб творчасці народных майстроў цікава расказалі прысутным кампетэнтныя спецыялісты. Незабыўнае ўражанне пакінулі вырабы рамеснікаў.

Восенню гасцей будуць прымаць пеляскія літоўцы. Яны правядуць свята нацыянальнага фальклору.

### РАСКАЗВАЕ ГАЛЕРЭЯ

У літоўскай школе Пелясы адкрыта галерэя мастацкай фатаграфіі. Яна расказвае аб жыцці, побыце і традыцыях тутэйшых літоўцаў і адлюстроўвае адрэзак часу, пачынаючы з 30-х гадоў бягучага стагоддзя і канчаючы нашымі днямі. Несумненную цікавасць уяўляюць фотаздымкі аб рупліўцах нацыянальнага адраджэння, людзях, якія захавалі нашчадкам народныя песні, танцы, звычаі, майстэрства самабытнага ткацтва і іншае духоўнае багацце.

Галерэя створана па ініцыятыве дырэктара школы Вітаўтаса Бігайлы.

### ПРЭМ'ЕРА СПЕКТАКЛЯ

У клубе Пелясы адбылася прэм'ера спектакля "Трое каханых" па аднайменнай камедыі Юліі Жэмайтэ. Пастаноўка, ажыццёўленая настаўнікамі школы і іншымі аматарамі самадзейнай творчасці, высмейвае чалавечыя заганы, якіх нямала і ў наш час.

На прэм'еры прысутнічалі міністр асветы Літоўскай Рэспублікі Зыгмас Зянькявічус і кіраўнік урадавага дэпартамента па справах нацыянальных меншасцей спадар Матузас.

### НА БІС!

Знакаміты літоўскі спявак Алекс Леманас пабываў нядаўна ў Пелясе. Для жыхароў гэтай і навакольных вёсак ён даў дабрачынны канцэрт, які прайшоў з вялікім поспехам.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**



Инна (Михалина) БУЙЛО

# ПО ПРОЙДЕННЫМ ДОРОГАМ

От меня требовали всякие сведения, которые мне были не под силу, а спросить не у кого было, все грамотные удрали. Я с трудом доучила детей до весны — и решила уехать. Но тут со мной случилась беда, я заболела не то тифом, не то испанкой. Лечил меня молодой фельдшер и ухаживала пани Мария. Долго я провалялась с очень высокой температурой, со страшной головной болью. Фельдшер посещал меня ежедневно, но был малоопытным, и лекарств не было. Разрешил лежать дома, т. к. здесь никого не было, кроме меня и пани Марии. (Мы опять вернулись в дом княгини и жили в разных комнатах). Пани Мария за стеной у меня. Она очень усердно ухаживала за мной. Для снижения температуры по совету фельдшера она меня ежедневно на несколько часов заворачивала в простыни, намоченные холодной водой. Словом, и фельдшеру, и пани Марии я обязана жизнью. Как были они все рады, когда я встала наконец. От головной боли у меня стали лезть волосы, и пани Мария остригла мои чудесные волосы, а я стеснялась ходить стриженой. Вскоре я получила от родителей письмо с извещением, что они получили мое, что им пишет Стася, что ее подлечили в Отвоцке и она уехала в Гродно, где вышла замуж за директора белорусской школы, а она работает заведующей детским приютом, что Эдик погиб под Ригой в последних боях с немцами, что у Косточки родился сын — назвали Евгением, что она с мужем живет в Волоколамске. У меня появилось непреодолимое желание уехать скорей к родителям. Я начала оформлять пропуск. Мне назначили зарплату как учительнице и закрепили за Жорновской школой. Но я вскоре уехала. Это было трудное путешествие. Пассажирские поезда еще не ходили. Только теперь я понимаю, какие нечеловеческие трудности переживала наша страна в период становления советской власти.

Когда я из Жорновок приехала на станцию (названия не помню), там очень долго не было поездов. Наконец пришел товарный, ехали в нем военные, и нас, пассажиров, посадили, проверив документы, условно до Орши. Там мы все долго ждали поезда, чтобы двинуться дальше. И, по-моему, только через сутки пришел товарняк, охраняемый военными и штатскими. Я подошла к вагону, где, чуть приоткрыв двери, стоял пожилой человек с винтовкой, я попросила его разрешения доехать до Витебска. Вначале он запротестовал, но я ему показала удостоверение учительницы, сказала, что еду к родителям, которых не видела два года. Видимо, я чем-то его разжалобила, он сказал быстро лезть в вагон и забираться под самый потолок (вагон был забит мешками с зерном). Я забралась под самый потолок и залегла, чтобы меня не было видно. Поезд тронулся, ночью были слышны выстрелы, часто горели буксы в вагонах (отсутствие смазки). Дорога была очень тревожной, я лежала за мешками, как мышь. Но вот на какой-то станции поезд остановился и началась проверка. С грохотом открылась дверь нашего вагона и вопрос: "Есть кто посторонний?" — "Есть, — говорит старик, — учительница, благороднейший человек"... "Вылезай", — сказали мне. Я спустилась с мешков и предстала перед двумя военными с винтовками через плечо. Еле живая протянула им свое удостоверение, они прочитали и разрешили ехать дальше. Так я на мешках чуть ли не под пломбой добралась до Витебска. Здесь, сердечно простившись с чудесным дедушкой, стала добираться к своим родителям. Они жили в имении Дыманово в 20 километрах от Витебска. Я, кажется, доехала до станции Крынки, а там 5 километров до Дыманова добиралась пешком.

Сколько было радости при встрече, трудно описать. Отец и мать остались одни, потому что Витя добровольцем в 16 лет ушел в Красную Армию и воевал в Сибири. Стася, будучи в Гродно, могла писать им и получать от них письма. Я была в иных условиях, на оккупированной территории, и не могла получать письма ни от родителей, ни от Стаси. Я была рада, что родители живут неплохо. У них была лошадь, корова, участок земли. Отец — председатель "бедноты". Помещика Заранки нет, хозяйничают сами. Я пожила год у родителей, но мама стала требовать, чтобы я вышла замуж, ведь они старые и работать не могут, потому я должна взять мужа в дом и вести хозяйство. Но я никого не любила и замуж не хотела, мне было 19—20 лет. Но мать так настаивала, что мне жить дома было тяжело. Она мне говорила: "Ты только скажи "да", и мы тебе найдем мужа". Я не могла с этим примириться. Жизнь дома была невыносима. Мама стала ко мне относиться очень враждебно и часто говорила: "Если не хочешь замуж, уходи из дома" (у них тоже положение было безвыходное). Я написала Косточке о своей жизни. Она, как всегда, помогала всем и вызвала меня к себе. Муж ее тогда был директором совхоза Данилково в 20 километрах от Волоколамска и в 3 километрах от станции Матренино. Я поехала к ним, там устроилась телятницей и птичницей. Косточка была бухгалтером. Прожила я у них несколько лет. В одном из пустых помещичьих домов я организовала школу и учила попутно детей рабочих. Вскоре эту школу тоже зачислили в штат и назначили меня учительницей, не спросив никаких документов об образовании. Так же, как и в Жорновках. Как были нужны мало-мальски грамотные люди! Как горячо бралась советская власть за обучение людей! Но потом я не смогла пробыть в Данилкове и уехала опять к родителям. На этот раз мама не старалась выдать меня замуж. Я втянулась в хозяйство, сгребала сено, бороновала поле, сажала картошку, полола гряды и на 22 году жизни вышла замуж. Но, к огорчению мамы, не за парня, который бы пахал им землю, а за губернского инспектора лесов — Лысова Сильвестра Евстафьевича, который приехал ревизовать Бабиновичское лесничество.

Сильвестр приехал в одно из воскресений, и мы пошли в сельсовет регистрироваться (свидетели тогда были не нужны). Затем нами было решено, что он получит лесничество и уедет из Витебска, потом заберет и меня.

В это время произошло такое событие. Мы жили с родителями в двухкомнатной квартире. В первой стоял письменный стол, сделанный руками отца, и моя кровать. Я сидела на кровати и шила, а отец что-то писал у стола. Вдруг открылась дверь, и вошел солдат в длинной шинели, высокий, широкоплечий. Отец повернулся к нему и спросил: "Что вам нужно?" Из другой комнаты вышла мама, и солдат бросился к ней: "Мама!" И стал ее целовать. Это, оказывается, был Витя. Из 16-летнего мальчишки вырос громадный дядя. Я долго не могла привыкнуть, что это наш Витя. Но по родинке на щеке признала.

Через месяц приехал Лысов, он устроился в лесничестве в Лепельском уезде Витебской губернии. Это было чудесное имение на берегу озера. Поселились мы в помещичьем доме. К моему приезду Сильвестр приобрел чудесную лодку белую, и я все дни проводила на озере, берега которого были покрыты лесом. Он ежедневно уезжал. Я оставалась одна, общества здесь не было. Мне вскоре стало скучно в этой глуши, и я уговаривала Сильвестра уехать в Московскую область. Он уехал искать работу, по дороге заехал к Косточке в Данилково, познакомился с ними и затем обратился в Министерство лесного хозяйства. Ему обещали лесничество. Мы стали собираться, я уже на седьмом месяце беременности. Уложили все вещи и пошли прощаться к соседу-леснichему. А пришли домой и нашли пустую квартиру. Окно открыто, лодка на другом берегу. Так мы уехали в том, в чем ходили прощаться...

Это был 1923 год.

**Публікацыя Дзіяны ЧАРКАСАВАЙ.**



НА ЗДЫМКУ: праўнукі Іны Антонаўны НАСЦЯ і ДЗІМА.

Заканчэнне. Пачатак у №№ 15—20.

*75 ГОД НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ БЕЛАРУСІ*

# ВЫСТАВА Ў ВІЛЬНІ

ГОРДАСЦЮ беларускай культуры неаспрэчна з'яўляецца Нацыянальная бібліятэка, што мае цяпер багаты кніжны фонд — звыш 7 мільёнаў кніг і рукапісаў. Перш чым агледаць выставу, прысвечаную 75-гадоваму юбілею, варта коратка азнаёміцца з даволі трагічнай гісторыяй гэтай асветніцкай установы.

Пачаткам арганізацыі бібліятэчнай справы на Беларусі з'яўляецца XI стагоддзе. Адным з буйнейшых па тых часах кніжных фондаў была бібліятэка полацкага Сафійскага сабора. У наступных стагоддзях вялікі ўклад у развіццё бібліятэчнай дзейнасці ўнеслі айцы-базыльяне. Найбольш вядомыя і буйныя бібліятэкі былі імі заснаваны ў Віленскім, Жыровіцкім і Супрасльскім манастырах. Канкурыравалі з імі ў гэтым кляштары кармелітаў — у Гродне, Глыбокім, Шклове. Актыўную дзейнасць у распаўсюджванні кніг вялі таксама бернардзінцы (Слонім), трынітарыі (Брэст) і інш.

Пачынаючы з XVI стагоддзя, арганізуюцца бібліятэкі пры навуковых установах, — пры Віленскай акадэміі, Полацкай езуіцкай акадэміі і інш. Адкрыліся бібліятэкі таксама пры калегіумах у Гродне, Брэсце, Мінску, Слуцку, Навагрудку, Мазыры, Пінску і іншых гарадах.

З прыватных бібліятэк самымі выдатнымі былі бібліятэкі Радзівілаў, што захоўваліся стагоддзямі ў Нясвіжы; Сапегаў, Храптовічаў, Масальскіх, Тышкевічаў і Урублеўскага — у Вільні.

З узнікненнем савецкай дзяржаўнасці Беларусі ў 1922 годзе была заснавана Нацыянальная (дзяржаўная) бібліятэка Беларусі. Сёння бібліятэка мае 7 300 000 экземпляраў рэдкіх старажытных выданняў, у тым ліку паўмільённы фонд — нацыянальных. Бібліятэка з'яўляецца таксама дэпазітарыем матэрыялаў ААН і ЮНЕСКА. Вядзецца кнігаабмен з 266 партнёрамі 36-ці краін свету.

Вялізныя страты панесла бібліятэка ў час другой сусветнай вайны, калі былі разрабаваны бясцэнныя скарбы даўніны і шэдэўры больш позніх стагоддзяў. Аднак паступова многа са страчанага было вернута ці адноўлена, і сёння мы можам азнаёміцца з часткай нацыянальных выданняў на выставе, якая адкрылася ў Вільнюсе, у бібліятэцы імя М. Мажвідаса.

Стараннем Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, пасольства Рэспублікі Беларусь у Літве, Нацыянальнай бібліятэкі Літвы імя Мажвідаса 23-га красавіка адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы, прысвечанай 75-гадоваму юбілею дзейнасці Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь. Гэтае мерапрыемства выклікала немалую цікавасць у інтэлектуалаў як беларускага, так і літоўскага грамадства (прыбыло каля 150 кнігалюбаў).

Адкрываючы юбілейную выставу, дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі імя Мажвідаса Баўбліс адзначыў, што пашырэнне і ўмацаванне сувязей паміж Нацыянальнымі бібліятэкамі Вільнюса і Мінска — заканамерныя і спрыяльныя. У нас агульная мэта, узаконеная агульнай гісторыяй і агульнасцю інтарэсаў: правільна інфармаваць і адукоўваць грамадства, дапамагчы яму зразумець, што ўзаемаразуменне і ўзаемадзеянне з'яўляюцца нярэдка рашаючым фактарам у развіцці гістарычных працэсаў. Доказам гэтага з'яўляецца росквіт Вялікага Княства Літоўскага і эканамічныя і культурныя сувязі, што развіваюцца паміж абедзвюма дзяржавамі ў цяперашні час.

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі Яўген Вайтовіч выказаў задаволенасць наладжаннем і развіццём добрасуседскіх адносін паміж Літвой і Беларуссю. Ад самага пачатку існавання беларускага пасольства ў Літве яно імкнулася да шчырага і цеснага збліжэння абодвух народаў, чаго, несумненна, патрабуе двухбаковы інтарэс.

Прыезды тэатра імя Я. Купалы і яго вялікі поспех у Вільнюсе, выставы беларускіх мастакоў, выступленні балета і музычна-харавых ансамбляў і іншыя мерапрыемствы паглыбляюць дружалюбныя сувязі нашых дзяржаў і адкрываюць перспектывы для далейшых плённых кантактаў.

Дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі спадарыня Алейнік азнаёміла з гісторыяй і дзейнасцю Нацыянальнай бібліятэкі, расказала пра яе значэнне для развіцця нацыянальнай культуры не толькі Беларусі, але і іншых народаў. У сённяшняй тэндэнцыі збліжэння ўсіх культур свету ізаляцыя любой краіны, любога культурнага цэнтра можа мець толькі адмоўныя вынікі. Знаёмячыся з дасягненнямі і багаццем культуры іншых народаў, тым больш блізкіх суседзяў, мы пераконваемся ў блізкасці і нават агульнасці інтарэсаў народаў планеты

Сярод прысутных былі прадстаўнікі Грузіі, Украіны і нашы літоўскія знаёмыя і сябры: начальнік дэпартамента рэгіянальных пытанняў і нацыянальных меншасцей Рэмігіус Матузас, Людміла Жыльцова, грамадскі дзеяч спадар Шымелёніс і шэраг іншых дзеячаў культуры.

Артыстычным упрыгажэннем сустрэчы было выступленне вядомага саліста, тутэйшага беларуса Леаніда Мурашкі і выдатнай піяністкі спадарыні Знайдзілоўскай.

Пасля выступленняў прысутныя пайшлі ў залу для азнаямлення з віленскімі і многімі іншымі выданнямі беларускай нацыянальнай літаратуры. Тут можна было ўбачыць не толькі найкаштоўнейшыя кнігі першадрукара Францыска Скарыны, але і многіх яго паслядоўнікаў — вучоных і літарататараў.

У добрым аптымістычным настроі разыходзіліся ўдзельнікі адкрыцця выставы. Узнікла пачуццё і перакананне: народ, стваральнік такіх каштоўнасцей, — бессмяротны.

**Алена ЗІНКЕВІЧ.**

г. Вільнюс.

# СВЯТЛО НЯГАСНУЧАЙ ЗОРКІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

дала жыццё паўнаводнай, магутнай рацэ, якая называецца талентам Жыновіча, знаходзіцца на Міншчыне ў вёсцы Арэшкавічы Барысаўскага раёна. Там 90 гадоў назад у простай сялянскай сям'і 1 мая (14 мая па новаму стылю) нарадзіўся хлопчык з блакітнымі вачыма, у якіх адлюстроўвалася чысціня неба, шаўкавістымі светлымі валасамі, нібы лён роднага краю, — Юзік (так у дзяцінстве называлі яго), пазней Язэп Язэпавіч Жыдовіч (сапраўднае прозвішча). "Родны кут" адыграў рашаючую ролю ў лёсе таленавітага хлопчыка. Тут, у сваёй вёсачцы, ён чуткім вухам, дапытлівым розумам спасцігаў прамудрасці народнага мастацтва. Патомны цымбаліст — яго бацькі і дзед таксама былі народнымі ўмельцамі, заядлымі музыкамі-цымбалістамі, а бабуля славілася як пявуння — Юзік-малодшы ўжо ў шэсць гадоў іграў як сапраўдны музыка. Падлеткам ён разам з бацькам ці з іншымі сельскімі музыкамі пастаянна запрашаўся на вечарынкі, вяселлі, хрэсьбіны, народныя святы.

...У 1918 годзе ў доме Жыдовічаў пасяліўся камісар воінскага падраздзялення, якое дыслацыравалася ў Арэшкавічах. Пачуўшы ігру хлопчыка, ён быў зачараваны ёю і параіў бацьку абавязкова даць сыну музычную адукацыю. Але цяжкі, галодны час не дазволіў ажыццявіць гэты намер. Аднойчы ў 1922 годзе ігру Іосіфа-малодшага пачуў служачычыгуначнік з Мінска М. Іванчанка. Віртуознае і вельмі выразнае выкананне зачаравала слухача. Зімой ён спецыяльна прыехаў па Іосіфа і арганізаваў праслухоўванне ў Першым Беларускім дзяржаўным драматычным тэатры. Камісіі выкананне вясковага хлопчыка вельмі спадабалася. І неўзабаве ў спектаклі "Паўлінка" Янкі Купалы Жыновіч удзельнічаў у якасці артыста-музыканта. Малады артыст прымаў актыўны ўдзел не толькі ў спектаклях, але і ў канцэртах, арганізуемых тэатрам з мэтай прапаганды нацыянальнага мастацтва. Увесь свой даволі значны рэпертуар (беларускія песні і танцы і некаторыя фальклорныя п'есы іншых народаў) Жыновіч захоўваў у памяці, таму што не ведаў нотнай граматы. Гэта, зразумела, тармазіла яго музычнае развіццё. У невялікім аркестры тэатра ўсе музыканты, акрамя Іосіфа,ігралі па нотах, яму вельмі хацелася авалодаць гэтым "сакрэтам". Як толькі надарылася такая магчымасць, малады артыст яе выкарыстаў. Са сваім сябрам, таксама цымбалістам Станіславам Навіцкім, яны арганізавалі дуэт і вырашылі паступіць у музычны тэхнікум, што адкрыўся ў 1924 годзе. У 1926 годзе Жыновіч прымаў удзел у першым беларускім фільме "Лясная быль" па аповесці М. Чарота. У наступным годзе І. Жыновіч і С. Навіцкі ўдастоіліся гонару выступіць у канцэрце для дэлегатаў IV Усесаюзнага з'езда Саветаў у Маскве. У гэты ж час малады музыкант вырашыў атрымаць яшчэ адну спецыяльнасць: паступіў на юрыдычны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Будучы студэнтам універсітэта, Жыновіч паспяхова спалучаў вучобу з работай у ансамблі беларускіх народных інструментаў, які арганізаваў і кіраваў ім цудоўны музыкант, акцёр і спявак Дзмітрый Захар.

У снежні 1930 года пастановай Калегіі Наркамасветы БССР гэты калектыў быў зацверджаны ў якасці Беларускага дзяржаўнага ансамбля народных інструментаў. Кіраўніком назначаны быў Д. Захар, а канцэртмайстрам і салістам І. Жыновіч. Ужо праз месяц Ансамбль (у той час ва ўсіх друкаваных выданнях назва пазначалася з вялікай літары) прыняў удзел у Тыдні беларускай культуры ў Маскве. А потым гастролі па Украіне, Грузіі і па гарадах і вёсках роднай Беларусі. Паўсюль Ансамбль прымалі цёпла і сардэчна. Гомельская абласная газета "Полесская правда" пісала: "Гэты Ансамбль з'яўляецца яркім доказам нашых дасягненняў у галіне мастацтва, нацыянальнага па форме і сацыялістычнага па зместу".



У 1937 годзе з утварэннем Беларускай дзяржаўнай філармоніі Ансамбль народных інструментаў быў пераўтвораны ў Дзяржаўны народны аркестр БССР, які ўзначальваў таленавіты дырыжор (потым народны артыст СССР К. Сімяонаў). Ён высока цаніў выканаўчае майстэрства канцэртмайстра і саліста аркестра І. Жыновіча.

На першым Усесаюзным аглядзе выканаўцаў на народных інструментах у 1939 годзе малады цымбаліст з Беларусі ўдастойваецца звання лаўрэата (другая прэмія). Аўтарытэт Жыновіча яшчэ больш узрос і замацаваўся не толькі сярод музыкантаў аркестра, але і сярод прафесарска-выкладчыцкага калектыву Беларускай кансерваторыі, дзе ён тады вучыўся. Яму прапаноўваюць узначаліць клас цымбалаў. Першым у рэспубліцы з музыкантаў народна-інструментальнага жанру Жыновіч атрымлівае права на сольны канцэрт.

У чэрвені 1941 года І. Жыновіч здаў экзамены ў Белдзяржкансерваторыі, быў поўны надзей і творчых планаў, але пачалася Вялікая Айчынная вайна. Жыновіча накіравалі ў распараджэнне Казахскай філармоніі. Неўзабаве ў складзе франтавых брыгад ён адправіўся для абслугоўвання воінскіх часцей Паўночна-Заходняга фронту.

Калі пачалося вызваленне роднай Беларусі, музыкант-патрыёт вёў вялікую культурна-масавую работу па абслугоўванню насельніцтва.

У 1946 годзе Іосіф Іосіфавіч узначальвае Беларускі народны аркестр і становіцца яго мастацкім кіраўніком і галоўным дырыжорам. Клапоцячыся аб развіцці народна-інструментальнага мастацтва і падрыхтоўцы маладых кадраў музыкантаў-выканаўцаў, Жыновіч стварае першую "Школу ігры на беларускіх цымбалах" і адкрывае клас цымбалаў, а пазней стварае кафедру народных інструментаў у Белдзяржкансерваторыі.

Так у цесным саюзе выканаўства ў якасці дырыжора і саліста аркестра і педагогікі фарміраваўся, развіваўся, загартоўваўся талент музыканта-мастака.

Каб мець яснае і яркае ўяўленне пра гэтага цудоўнага чалавека, трэба напісаць пра яго кнігу, але нават асобныя "замалёўкі", што адлюстравалі фрагменты творчага жыцця выдатнай асобы, могуць даць некаторыя ўяўленні аб ім.

Калі мы разважаем пра майстэрства мастака, пра яго прафесіянальнае майстэрства, то заўсёды маем на ўвазе яго чалавечую сутнасць, яго эстэтычныя погляды, якія сілкуюць яго выканаўчае крэда. У выканаўчым мастацтве Жыновіча, ці то будзе ігра на цымбалах, ці дырыжыраванне, заўсёды прысутнічалі самабытнасць і мудрасць, гармонія і прыгажосць.

Яго палымянай мастакоўскай натуры заўсёды ўласцівае было імкненне да дасканаласці. Валодаючы майстэрствам феерычнага класа, Жыновіч рассоўваў "гарызонты" выканаўчай творчасці, усё жыццё спаборнічаючы сам з сабой, перамагаючы сябе ранейшага. Магчыма, музыканты, якія блізка ведалі "мэтра", сваякі запярэчаць і стануць даказваць, што Іосіф Іосіфавіч мала займаўся непасрэдна на цымбалах. Так, гэта праўда. Але ці значыць гэта, што ён недастаткова ўдасканальваўся? Валодаючы ад прыроды музыкальнымі данымі экстра-класа, ён менш за ўсё клапаціўся пра тэхналогію, яму важна было развівацца як Асобе, як Мастаку, здольнаму глыбока пранікнуць у святая святых — у творчую лабараторыю, спасцігнуць ідэйна-вобразную канцэпцыю інтэрпрэтуемага музычнага твора. Таму цымбаліст-віртуоз ніколі не карыстаўся эпатажнымі прыёмамі ў сваім выканаўстве. У аснове яго творчага крэда заўсёды была прыгажосць з вялікай амплітудай праяўлення. Кожны выкананы ім твор быў прапушчаны праз розум і сэрца, выверааны багатым вопытам і высокім мастацкім густам. Таму сольныя выступленні як цымбаліста, прэм'еры аркестравых канцэртаў — гэта заўсёды былі музычныя святы, якія дарылі слухачам адчуванне радасці быцця, асалоду ад выдатнай музыкі і самабытнага высокамастацкага выканання.

Жыновіч са сваім творчым калектывам — Дзяржаўным народным аркестрам (які цяпер па праву носіць яго імя) аб'ехаў увесь былы Савецкі Саюз. За яго межамі: у Канадзе, у Манрэалі, на "Экспо-67", у Фінляндыі, ГДР, Польшчы — усюды ён быў паўпрэдам нацыянальнага мастацтва, стараўся паказаць і даказаць таленавітасць беларускага народа, дастойна нёс "мастацтва народнага велічны сцяг".

Кампазітарская творчасць Жыновіча невялікая, але вельмі спецыфічная. Звернем увагу на назву твораў: "Беларускія танцы", "Беларуская мелодыя", "Сказанне пра Беларусь", "Беларуская працяжная і хараводная", "Беларуская сюіта", "Лявоніха", "Перапёлачка" і іншыя. Нацыянальная аснова яго твораў зрабіла яго творчасць інтэрнацыянальнай. Усе яго творы сталі цымбальнай класікай. Яны перажылі свайго стваральніка, яны асуджаны... на поспех.

У кароткім нарысе вельмі цяжка асвятліць усе грані творчай дзейнасці буйнога мастака, таму абмяжуемся пералікам некаторых яе бакоў. І. Жыновіч сваім цудоўным выкананнем ператварыў "гадкае качаня" (прымітыўныя цымбалы) у "прыгожага лебедзя" (дасканалы акадэмічны інструмент), які заняў у табелі аб рангах месца побач з прызнанымі ва ўсім свеце класічнымі музычнымі інструментамі: фартэпіяна, скрыпкай, віяланчэллю і іншымі; адрадзіў да жыцця беларускі народны аркестр; стварыў прафесіянальную школу ігры на беларускіх цымбалах; выхаваў цэлую плеяду высокакваліфікаваных цымбалістаў: выканаўцаў і педагогаў.

Сярод яго выхаванцаў, якія дастойна працягваюць справу свайго настаўніка, — заслужаныя артысты Рэспублікі Беларусь Яўген Гладкоў, Веньямін Бурковіч, Таццяна Сцяпанава, заслужаны работнік культуры Уладзімір Тупіцын, салісты філармоніі Аляксандр Лявончык, Мікалай Шмелькін, выдатныя педагогі: Яўген Гладкоў і Таццяна Сяргеенка, Аляксандра Кананові і Ядвіга Бабровіч і многія іншыя. Усе вучні Жыновіча вызначаюцца выканаўчым і педагагічным почыркам і стылем, разнастайнасцю метадаў, спосабаў і сродкаў увасаблення ідэй, думак, пачуццяў. Пры ўсёй разнастайнасці індывідуальнасцей, выхаванцы Іосіфа Іосіфавіча атрымалі ў спадчыну ад яго галоўнае — дух высокага артыстызму, служэнне любімай Музе.

Успамінаючы Жыновіча, часта па звычцы параўноўваюць яго з яркай зоркай. Але "зорка" — гэта сімвал не толькі яркасці, але і халоднасці, далёкасці, недасягальнасці. Нічога гэтага не было ў сапраўднага мастака. Была шчырая любоў да сваіх вучняў, артыстаў аркестра, да калег, яны плацілі яму ўзаемнасцю. Менавіта любоў і прызнанасць спадарожнічалі яму на працягу ўсяго яго творчага жыцця.

Больш за паўстагоддзя працягвалася яго мастацкая дзейнасць, і заўсёды яму было цесна і няўтульна ў рамках аднаго якога-небудзь занятку. Шырокаахопная, поліфанічная дзейнасць Жыновіча — гэта была праява яго прыроды, сутнасці, а не творчай амбіцыі, як лічылі некаторыя крытыкі. У ім, як цяпер стала зусім відавочна з гістарычнай дыстанцыі, у канцэнтраваным выглядзе ўмясцілася цэлая эпоха тэорыі і гісторыі выканаўства на беларускіх народных інструментах, ён праславіў народна-інструментальнае мастацтва не толькі ў роднай Беларусі, але і далёка за яе межамі.

**Міхаіл СОЛАПАЎ,**
**прафесар Беларускай акадэміі музыкі.**



**НА ЗДЫМКАХ: першы Дзяржаўны ансамбль народных інструментаў. Першы рад — К. СУШКЕВІЧ, В. САМСОНАЎ, Б. СПЕКТАР, І. ГЕРМАН, салістка Л. АЛЕКСАНДРОЎСКАЯ, Н. ПЛАШЧЫНСКІ, Е. ФРЫДМАН. Другі рад — І. ЛІПНІЦКІ, І. ЖЫНОВІЧ, С. ШЧЭРБА; ансамбль на "Экспо-67" у Канадзе.**

## *У ПАМЯЦЬ АБ ЯЗЭПУ ДРАЗДОВІЧУ*

**У Доме літаратараў, у Мінску, адбыўся вечар, прысвечаны вядомаму беларускаму мастаку і літаратару, асветніку і збіральніку фальклору, патрыёту зямлі беларускай Язэпу Драздовічу.**

**Тут жа была размешчана і выстава работ мастакоў — удзельнікаў пленэра, які адбыўся на радзіме Я. Драздовіча мінулым летам. Успамінамі аб падарожжах па мясцінах жыцця і дзейнасці Я. Драздовіча падзяліўся адзін з вядучых даследчыкаў яго творчасці Арсен Ліс. Свае вершы чыталі вядомыя беларускія паэты Казімір Камейша, Сяргей Панізьнік, Уладзімір Арлоў. Гучалі музыка і песні, прысвечаныя нашаму слаўнаму земляку.**





**НА ЗДЫМКАХ: на вечары, прысвечаным Я. Драздовічу; выстава работ удзельнікаў пленэра на радзіме Я. Драздовіча.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

# РУХ — ДА КОЛАСАЎСКАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ

Сярод персанальных энцыклапедый, якія выдадзены ў краінах былога СССР, здаецца, ці не толькі дзве з'явіліся на свет за межамі Беларусі. У Расіі — лермантаўская энцыклапедыя. На Украіне — энцыклапедыя "Тарас Шаўчэнка". Вось і ўсё. У нас, на Беларусі, — энцыклапедыі "Францыск Скарына" і "Янка Купала". Гавораць, што ідзе праца над энцыклапедыяй "Максім Багдановіч".

А што ж з постаццю Якуба Коласа?.. Калі не памыляюся, пэўны час размовы пра персанальную энцыклапедыю, прысвечаную славутаму паэту, вяліся. Здаецца, і галоўны па тым часе рэдактар "Беларускай Энцыклапедыі" Барыс Сачанка падтрымліваў ідэю. Няма сумненняў, што сённяшняе кіраўніцтва "Беларускай Энцыклапедыі", яе супрацоўнікі таксама хутчэй за ўсё прыхільнікі рэалізацыі задуманага. Вядома ж, і Коласаўскі музей мог бы спрычыніцца да гэтай вялікай справы. Але ж наўрад ці разумна толькі ад аднаго музея чакаць, што раптоўна яго супрацоўнікі прынясуць у выдавецтва рукапіс энцыклапедыі "Якуб Колас".

Патрэбна паяднанне агульных намаганняў. Мо з улікам і таго, што існуе Міжнародны коласаўскі фонд. Але ж перападзе ўсіх руплівіцаў павінны ісці два флагманскія караблі — акадэмічны Інстытут літаратуры і выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя". Яны — галоўныя патэнцыяльныя энергетычныя рухавікі. І толькі яны могуць надаць ініцыятыве практычны ход.

Мажліва, тое-сёе ў плане большага афармлення шляхоў да рэалізацыі задумы можа зрабіць і літаратурная грамадскасць. Хаця б ужо разварушыць цяпельца, падштурхнуць і дзяржаву да пэўных крокаў. Мо нават — да прыняцця пэўнай урадавай пастановы?.. Без пастановы зараз нікуды, што ўжо там гаварыць пра грамадскую ініцыятыву. І нават, на вялікі жаль, у дачыненні да такой постаці, як Якуб Колас.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*НЕТРАДЫЦЫЙНАЕ МАСТАЦТВА*

# БЫЛО Б ЖАДАННЕ, А ГАРЫШЧА ЗНОЙДЗЕЦЦА...

Усё самае цікавае адбываецца на гарышчы. Хто не верыць — нехай застаецца ўнізе, але ж ён многае страціць... Група мастакоў "Камікон" сумненняў наконт гэтага не зведвала, а таму асталявалася на гарышчы. А яшчэ гарышча ў якасці майстэрні і музычна-мастацкага салона было выбрана ў піку падвалам, у якіх гадамі чэзнуў кволы айчынны андэграўнд. Зноў жа, на гарышчы неяк бліжэй да неба, аблокаў і зорак, якія ў залежнасці ад часу сутак бачныя праз вокны на століі.

Пачалося ўсё зусім выпадкова: гадоў дзесяць назад у музеі-касцёле, размешчаным у Раўбічах, сабраліся мастакі Канстанцін Гарэцкі, Ірына Рыжкова і Алена Жданеня, якія на хвалях шматабяцаючай перабудовы вырашылі ўтварыць мастацкую групу. Так і быў створаны "Камікон", які спакойна праіснаваў больш дзесяці гадоў.

Што аб'ядноўвае гэтых людзей і прыцягвае новых? Па-першае, выпадак — мова Бога. Па-другое, жаданне жыць цікава і нясумна. Адна з глабальных праблем, што ўскладняе чалавечае жыццё, — занадта сур'ёзныя да яго адносіны. Яно ж рознае, як шторы, што пашыла Алена Жданеня з кавалачкаў: побач са змрочнай цёмна-бардовай плямай лёгкадумны ўзор з вясёлага рознакаляровага паркалю... А мастацтва нельга ўспрымаць занадта сур'ёзна, яно ўмоўнае, гэта гульня розуму і таленту, вітаміны для душы. Калі ўмоўнасць становіцца важнейшай за рэальнасць, яна сама пакажа язык ці падмане яшчэ якім-небудзь мілым жартам. Каб нагадаць пра гэта, і існуе "Камікон".

Любая ідэя, калі яна канструктыўная, з'явіўшыся на свет, пачынае жыць сваім самастойным жыццём. Праз паўгода існавання "Камікона" на гарышчы з'явіліся музыканты, якія вельмі арганічна ўпісаліся ва ўжо асвоеную мастакамі прастору. Прайшло тры джазавыя вечары, канцэрт, прысвечаны 200-годдзю Шуберта, на якім іграў Аляксандр Іваноў, igралі Вольга Хабібуліна, Віялета Льдокава, у бліжэйшай будучыні тут збіраюцца слухаць сітар...

Што такое майстэрня мастака? Прастора, у якой жыве мастацтва. Прычым, размова ідзе не толькі пра жывапіс, тут можа з аднолькавым правам прысутнічаць і фатаграфія, і музыка, і паэзія. На белым аркушы, што вісіць у майстэрні, напісаны чатыры радкі верша:

**Отчаянье я превратил в игру,**
**О чем вздыхать и плакать в самом деле,**
**Но не забавно ли, что я живу!**
**Хотя б до будущей недели.**

Аўтары — Георгій Іваноў і крыху Канстанцін Гарэцкі...

Мастацтву ў Беларусі сёння цяжка, таму што яно нікому не патрэбна. Купляць жывапіс — сёння дорага. Калі ў людзей з'яўляюцца грошы, яны купляюць хлеб, а бясплатнымі відовішчамі сёння народ не абдзелены. Аднак "На гарышчы" вераць, што мастацтва — вечнае і займацца ім трэба незалежна ад таго, ці патрэбны ты на даны момант. Раней ці пазней спатрэбішся... А каб не згубіцца сярод шматварыянтнай аднастайнасці, што акружае цябе, па-першае, ёсць званочкі, якія разгойдваюцца пад столлю і шчодра раздорваюцца гасцям, а, па-другое, старонка ў Інтэрнеце, якая расказвае пра ўсе мерапрыемствы, плануемыя "На гарышчы" ў бліжэйшы месяц. А каб не перашкаджалі, на дзвярах вешаецца шыльдачка "Дурням і недобразычліўцам уваход забаронены". Калі нехта пакрыўдзіцца, значыць, сам прызнае сябе сярод пералічаных...

Калі чалавека перастае задавальняць навакольнае жыццё, ёсць некалькі выйсцяў: можна з бутэлькай гарэлкі запаўзці ў сваю дзевяціпавярхоўку і праз паўгадзіны ў глыбокім сне без прывідаў поўнасцю прымірыцца са светам і сабой. А можна замест таго каб бясконца скардзіцца на недасканаласць рэчаіснасці, пабудаваць свой уласны свет, такі, у якім захочацца жыць самому і запрасіць туды сваіх блізкіх сяброў. Было б жаданне, а гарышча знойдзецца...

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## *ФЕСТЫВАЛЬ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ КУЛЬТУР*





**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

**Мерапрыемствы форуму ўключылі ў сябе адкрыццё мастацкай выставы "Свет вачыма дзяцей", конкурс малюнкаў на асфальце, канцэрт фальклорнага ансамбля "Дударыкі" і навукова-педагагічную канферэнцыю "Узаемадзеянне і ўзаемаўзбагачэнне нацыянальных музычных культур народаў Беларусі".**

**НА ЗДЫМКАХ: конкурс малюнка каляровымі крэйдамі; на мастацкай выставе "Свет вачыма дзяцей"; удзельнік фестывалю фальклорны ансамбль "Дударыкі" нацыянальнай школы-гімназіі.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**




**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК: Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС: 220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 716. Падпісана да друку 19.5.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.**